8.

Вечеръ, вечеръ, вечериночка...
Хто тамъ ѣдзе? Горениночка,
Ѣдзѣ Андрейко пьяный:
„Отчини, Кацеринка, я твой коханый“.
—Не отчинюся, брата боюся,
А процивъ цебе сама лисцемъ сцелюся.

9.

Идзи прочь, не морочь, съ своимъ залецаннемъ (*увѣреньемъ*),
Оддай мою шириночку съ разнымъ вышиваннемъ;
Оддай мое два персцёнка, треццю закоклюшку,
Коли мене ты не любишь, люби хоць лягушку.
Идзи прочь, не морочь, идзи собѣ къ бѣсу:
Не для цебе веселюся, свою бѣду цѣшу.

10.

Гэй-чукъ, дзѣвка, люблю цебе,
Не ѣшь хлѣба, возьму за себе.
Дзѣвка того послушала,
Три дни хлѣба не кушала.
— А скурвы сынъ обманивъ
И зъ голоду уморивъ.
— А ты, дзѣвка, не дмися, *)
Возьми блиновъ, нажрися.

11.

Черезъ горочку три сцежечки (*тропиночки*), Боже нашь!
Ишли туды три дзѣвочки, Боже нашь!
Одна ишла въ золоцѣ, Б. н.
Другая въ аксамицѣ, Б. н.
Трецця въ розумѣ. Б. н.
Што въ золоцѣ, то Васи́лькова, Б. н.

*) *Дмацьца*—надмеваться, гнѣваться.

Што въ аксамицѣ, то Максимкова, Б. н.
Што въ розумѣ, то Янечкина, Б. н.
Я золота хоць припозычу (*призайму*), Б. н.
Аксамиту хоць прикуплю Б. н.
А розуму а ни вцяць, а ни взяць. Б. н.

12.

Ель моя зелёная! свекрова шалёная (*злая*)!
Загадала мнѣ три дзѣлы дзѣлаци:
Першее дзѣло въ недзѣлю плацьце жлукциць (*бучить*),
Другое на морѣ бѣлиць,
Треццее дзѣло верхъ лѣсу сушиць.
Свекровка, моя маточка!
Я не Татарка въ недзѣлю жлукциць,
Я не вуточка на морѣ бѣлиць,
Я не совнико (или сонепько) верхъ лѣсу сушиць,
Я не зорочка на небѣ качаць,
Я не щурочка (*мышенокъ*) въ орѣшкў складаць.

## в) На счетъ собирателей подаянія и скомороховъ колядныхъ.

13.

Пріѣхала Коледа на сивомъ конику,
Поставила Коника у одринцѣ (*конюшнѣ*),
Сама сѣла на куцѣ у перинцѣ,
Поставила дудочки на стовпѣ:
Грайце дудочки голосно
Скачце дзѣвочки хорошо.

14.

Пошла Коледа колядуючи
Да за ею хлопцы жебруючи. Коледа!
Пошла Коледа по леду
Разсыпала Коледа коляду.
А вы дзѣвочки не гуляйце,
Да йдзице коле ду сбирайце! Коледа!

15.

У пановъ нихто безъ спросу
Не поткнецъ въ бесѣду носу:
А нашъ братъ сусимъ просцякъ,
Въ корчму смѣло лѣзёцъ ўсякъ.
Нашъ такій мужицкій норовъ
И безъ зову и безъ споровъ;
Почувъ — граюцъ ци пѣюцъ,
Ци побачивъ, а й дзѣ пьюцъ,
По неволѣ туды ноги
Найдуцъ хоць и три дороги.
Старцу если не накладъ:
Походзецъ подъ самый ладъ.
Особливо у Коляды
Побесѣдовацъ мы рады,
Намъ тогды слободный часъ,
Не неволюцъ паны насъ.
У пановъ своя бесѣда!
Каженъ любицъ у сусѣда
Поцягнуцъ (*потянуть*) и погулядъ.
И нашъ братъ на тую-жъ стацъ:
Тымъ смѣлѣй коли въ кишени (*карманъ*)
Гроши ў кого зазвинѣли.
Якъ колядны придуцъ святки,
Разомъ ўси бацькй й матки
Бредуцъ въ корчму на банкетъ,
И дзѣтва за ими вслѣдъ.
Соберуцца молодзицы,
Хлопцы и красны дзѣвицы,
Молодый увесь народъ
На игрище въ карогодъ.
Позовуцъ сюды Архипку;
Молодзецъ—въ свою ёнъ скрипку!
На уси животы берецъ,
Веселухи ўсе дзерецъ!

Ци на йгрищи, ци веселле (*свадьба*),
Хоць то правда, ёнъ съ похмелля
Не выходзиць, всёгды керъ (?)
Да ўжо жъ и на скрипку звѣрь.
Позаймёмъ услоны (*скамьи*), лавки;
Троху тутъ и не безъ давки.
А дзѣвчаты и хлопцы,
Удалые молойцы,
Розные выводзиць скоки,
Хто въ прúсядку, а хто въ боки.
Тутъ то есць на што глядзѣць!
Туто иншій молодзецъ
Розныя, якъ бы зъ навуки,
Выкидаецъ въ танцахъ штуки;
Отобиць усихъ дзѣвчатъ:
Тутъ нихто ему не братъ.
То присядзець, то подпригнець,
То вочами ёнъ подмигнець,
То верцицца якъ турокъ (*волчокъ*),
Маргелку (*шапку*) схиливъ на бокъ,
То присвиснець, то притóпнець,
То подъ ладъ въ ладони хлопнець,
То штурхнець (*бросится*) подъ бокъ кому,
Не мѣшали штобъ ему,
То вьюномъ околъ дзѣвокъ,
Не жалѣець своихъ цэвокъ (*голеней*),
Въ емъ уся говориць косць,
Всимъ себрамъ (*пріятелямъ*) своимъ на злосць.
Енъ въ кругу летаець пцицей
За имъ дзѣвки вереницей.
Старикú-жь собѣ мы тутъ
Сядземъ зъ бабами на кутъ,
Межъ собою станемъ зюкаць (*бесѣдовать*)
И подъ рядъ горелку клюкаць.
Ци Левонъ, ци не Левонъ,
Зъ ряду ў насъ нихто не вонъ!

Никому мы не даруемъ,
Попиваемъ и старуемъ (*толкуемъ*)
Безъ горхухи не тый ладъ
Усякъ найгрищи выпиць радъ.
Наша складка не богата
Въ доволь по кварцѣ на брата.
Хто поважно тутъ сѣдзиць,
За лучиной хто глядзиць,
Хто пѣець, хто пипку куриць,
Казки кажець, а хто дуриць,
Альбо кошели (*сплетни*) плецець
На сусѣди, — якъ живець.
Кажному тутъ ёсць работа,
Кажному своя охота.
Коли жъ придзець намъ пора,
Чесно пойдземъ до двора.
Коли жъ черци насъ поднукнуць
Болѣй выпиць, болѣй клюкнуць;
Ну! тогды не быць добру,
Дойдзець кажному себру.
Ци хто выпьець болѣй кварты,
Ну тогды худые жарты;
Пойдзець тутъ сусимъ къ бѣдзѣ,
Достанецца й бородзѣ.
Неуковырные (*неугомонные*) поганцы
Иніе поднимуць танцы:
Примуцца дзѣлиць чубы,
Понасталюць (*понатрутъ*) вочи, лбы.
У кого й сермяжку знимуць
До расчцоту якъ непримуць
Што ёнъ лишнее набравъ,
Альбо въ чимъ другимъ не правъ.
Дзѣло дойдзець до чубайки (*вихрà*),
Не разнимуць безъ нагайки.
А на завтра икономъ
Ни похмелле бизуномъ

Усихъ, кого заставъ, поцѣшицъ
И спину порядкомъ счешицъ.
  Тутъ, при неладу такомъ,
Наше брацця, хто съ умкомъ
Цихенько съ игрища драла.
Колибъ тая не хворала!

16.

Антонъ козу ведзецъ,
Антонъ и погоняецъ,
Не попало по козѣ
Да и'Антоновой нозѣ. (Пѣсня не вся) *)

17.

Ве́черъ ве́черъ вече́ра
На припечку сѣдзѣла,
Кудзелочку верцѣла,
На сусѣдку глядзѣла,
Одна одну спихнула,
И ноженьку звихнула.

### Б. Благовѣщенскія и весеннія.

1.

Благовѣщеннико святое,
Пошли совнико золотое,
Штобъ земелька отышла,
Да красна Весна къ намъ пришла,
Штобъ распусцилися вѣточки,
Штобъ раскраснѣлися квѣточки,
Штобъ луги зазеленѣлися,

---

*) Полный пересказъ этой пѣсни у Зѣнкевича въ Пинскихъ пѣсняхъ стр. 40 Ср. у Рипинскаго въ книжечкѣ: Bialoru, стр. 181—182. Коза несомнѣнно имѣетъ тутъ миѳическое значеніе (Снегир. Пр. и Обр. II, 69. Grimm, D. Mythol, 483) *Прим. О. М.*

Наши пашеньки одзѣлися.
А й мы пойдземъ въ лѣсъ по мяточку.
Ци за щавлемъ въ свою нивочку.

2.

Ой ты, Весна, Весна! што жъ ты намъ принесла?
Ой, ничего не принесла, да зъ засиковъ жито выгребла.
Принесла я, принесла малымъ дзѣткамъ по яечку,
Молодымъ молодкамъ по сыночку,
Старымъ бабулькамъ по кіёчку,
Молодымъ дзѣвицамъ по вѣночку,
А добрымъ дзѣцюкамъ (*парнямъ*) по конёчку.

3.

Благослови, Божія маци, весну гукаци,
Зиму замыкаци, лѣто отмыкаци.

В. На св. Георгія.

Ой выйду я на вулочку, бычки бушуюць,
Юрья, Юрья! бычки бушуюць!
Бычки бушуюць, бо весну чуюць,
Юрья, Юрья! бо весну чуюць.
(Первое полустишіе всякій разъ повторяется).
Зашумѣли рѣчки, лёды поплыли,
Зачернѣла землица, бо поорали,
Зазеленѣла береза, бо пок̆укалася,
Зазеленѣла долина, цвѣтки зацвѣли.
Зазеленѣла дубрава, пташки спѣваюць.
Ой выйду я, выйду цвѣтки собираци,
Цвѣтки собираци, да вѣночки вици,
Вѣночки вици, Юрья хвалици (или: славици).

2.

Разыгрався Юрьевъ коникъ,
Разбивъ камень копыцикомъ:

У томъ камни ядзерка нѣтъ,
У нашихъ дзѣцюковъ правдыньки нѣтъ.
Разыгрався Юрьевъ коникъ,
Разбивъ орѣхъ копыцикомъ,
Въ томъ орѣху ядзерко ёсць.
У нашихъ дзѣвочекъ правда ёсць.

### Г. На Воскресеніе Христово.

1.

Дзень добрый тобѣ, пане господарю!
Христосъ Воскрёсъ сынъ Божій!
Да черезъ поле, широкое поле,
Хр. В. (припѣвъ за каждымъ стихомъ).
Да черезъ межи золоценькія
Ишли цекли волочебнички,
Да пыталися славнаго пана,
Славнаго пана, пана господаря.
Да чимъ же ёнъ уславився?
И добромъ своимъ, и дворо́мъ своимъ.
Помета́юць дворы усё па́вимъ перомъ,
Усё павимъ перомъ, золотымъ крыломъ.
Ставляе столы ўсё цисовые,
Засцилае столы ўсё китайкою,
Усё китайкою ўсё зелёною,
Ставляе кубки ўсё серебряные,
Наливае кубки зеленымъ виномъ,
Зеленымъ виномъ, чорнымъ пивомъ,
Чорнымъ пивомъ, да солодкимъ медомъ.
Зеленое вино пану господарю,
Чорное пиво для жоны его,
Солодокъ медокъ для его дѣтокъ.
Дай тобѣ Боже, пане господарю,
Да пиво варици, да сына женици,
Горѣлочку гнаци, дочки отдаваци.

Дай тобѣ Боже, пане господарю,
И у коморѣ, и у оборѣ (*скотномъ дворѣ*),
А гдзѣ гора, тамъ жита копа,
Гдзѣ тольки логъ, тамъ сѣна стогъ.
Пане господарю! Не кажи такъ ици,
Не кажи такъ ици, кажи падарици;
Да наши дары не великіе;
Волочобнички не докучнички;
Да въ годъ ходзюць, да Бога просюць.
Починальничку по дзесятничку,
Старшему пѣвцу да копу яецъ,
А михоношу (или кошеленошу) да пирогъ къ носу.

2.

Ишли пришли волочобнички, Хр. в. С. Б.
Играючи и спѣваючи, Хр. в. С. Б.
Добраго пана шукаючи.
Добры вечоръ, пане господарю!
Ци спишь, ци такъ лежишь, нашь государю?
Коли да спишь, Богъ съ тобою,
Коли жь не спишь, мовь зо мною.
Отчини вокно, поглядзи на дворъ:
На твоемъ дворѣ стоиць шацеръ
Новюсенькій, бѣлюсенькій.
А въ тымъ шатрѣ золотое кресло,
На тымъ креслѣ самъ Богъ сѣдзиць;
Передъ Богомъ стояць уси святочки (*праздники*),
Яны шикуюцца *), да рахуюцца (*считаются*),
Которому святу наперёдъ пойци.
Святые Сороки наперёдъ пошли, (9 Марта)
Святый Лексѣй сохи чешець, (17 Марта)
Благовѣщенне да завориваець, (25 Марта)
Святый Вербичъ вербу посвѣцаець, (Вербное Воскресенье)
Чистый Чецверъ ячмень засѣваець;
Святое Величко съ краснымъ яичкомъ, (Пасха)

*) *Шиковáцьца*—становиться въ порядокъ по чинамъ.

Да першій дзень пироги маюць,
А середній дзень добре погуляюць,
А послѣдній дзень выправляюць.
Святый Юрій, Божій посолъ, (23 Апрѣля).
Божій посолъ до Бога пошовъ,
А узявъ ключи золоценькіе,
Отомкнувъ землю сырюсенькую (*очень сырую*),
Пусцивъ росу цеплюсенькую,
На бѣлый цвѣтъ и на увесь свѣтъ.
Святый Микола по межахъ ходзиць, (9 Мая).
По межахъ ходзиць, да жито родзиць,
Уросився, умочився,
Подъ золотой поясъ подоткнувся.
Святое Ушесця жито выплываець, (Вознесеніе).
Святая Семуха навбзы возиць, (Семикъ).
Навозы возиць, да Бога просиць.
Святый Дзевятникъ жито ровнуёць,
Святая Дзесятуха жито красуець *).
Святый Иванъ пчелы садзиць (24 Іюня).
Подъ перелазомъ (*оградою*) по шесцеро разомъ.
Святый Петро жито спѣлиць, (29 Іюня).
Святый Кузьма серпы робиць
Золотые, новые и сталёвые; (1 Іюля).
Святый Дземьянъ сѣно гребець.
Святый Илля—славная жнея, (20 Іюля).
Святый Борисъ снопы зносиць, (24 Іюля).
Святыя Ганны домовь звозюць, (25 Іюля).
Святый Спасъ жито посвѣцаець, (6 Августа).
Больша Пречистая попары **) мѣшаець, (15 Августа).
Попары мѣшаець—жито засѣваець.
Меньшая Пречистая ей помогаець; (8 Сентября).
Здзвиженя святое зъ поля збираець; (14 Сентября).
Святый Михайло съ холоднымъ вѣтромъ; (6 Сент. или 8 Нояб.?)
Святый Покровъ землю покрывъ, (1 Октября).

*) О значеніи этихъ дней см. выше въ статьѣ св. Бермана.
**) Попáръ—поле, оставленное на годъ для отдыха.

Землю листомъ, а воду ледомъ;
Святый Юрій снѣгомъ мосциць, (26 Ноября).
Святый Микола морозомъ гвоздзиць. (6 Декабря).
Пришли Колядки, господарямъ порядки, (Рождество).
Святоя Василля дзѣжу (*квашню*) мѣсиць, (Новый годъ).
Дзѣжу мѣсиць, пироги печець
И рогатые и богатые.
Святое Водокреще воду посвѣцаець, (Крещенье).
Воду посвѣцаець—людзей покропляець;
Святое Стрѣчепне лѣто сострѣкаець. (2 Февраля).
Пришли Сороки до другихъ Сороковъ.
Дай же, Боже, господарёмъ здоровья,
Дай же, Боже, кабъ жито родзило
На нивѣ копами, а въ гумнѣ скирдами,
На току ўмолотомъ, а въ арудзѣ (*закромъ*) споромъ,
Въ арудзѣ споромъ, а въ прудзѣ namoломъ,
У дзѣжѣ подходомъ, а у печи ростомъ,
А у печи ростомъ, на столѣ сыцёмъ (*жиромъ*).
Пане господарю, дари госцей,
Дари госцей, да не бавь (*медли*), барджѣй (*скорѣе*)!
Наши дары не величкіе,
У дзвери не лѣзуць, а ў вокно шіюць.
Починальничку да копу яець,
Помогальничкамъ по дзесяточку,
Для мѣхоноша досиць (*довольно*) три гроша,
А скоморохова горька доля:
Што даюць тольки, берець и тое.
Коли не даримъ, проси у хату,
Мы и на тое приступаемъ:
Кварту горѣлки, сыръ на тарелку.

За каждымъ стихомъ, который поетъ одинъ запѣвало съ музыкантомъ, всѣ хоромъ поютъ: Христосъ воскресъ Сынъ Божій! У нѣкоторыхъ прибавляютъ:

Дари́, господарю, славный мужу!
Гетымъ даромъ ты не выдасися,

Заживешь отъ Бога великой хвалы,
А отъ людзей великой славы.

Ежели, въ случаѣ нерасположенія хозяевъ, получатъ отказъ, то, не теряя бодрости, безъ обиды хозяину, припѣваютъ:

Перешли сельцо, здобыли яйцо,
Перешли другое—поцеряли й тое!

Иногда же въ такомъ случаѣ поютъ:

Родзи, Боже, жито дробно и рѣдко,
Кабъ съ конца въ конецъ зародзивъ звонецъ. *)

3.

Ишли по дорозѣ волочобнички,
Христосъ воскресъ Сынъ Божій! (послѣ каждаго стиха)
Волочилися, помочилися...
Ишли пришли къ тому двору,
А въ томъ дворѣ паня добрая,
Паня добрая, не спѣсивая.
Въ первомъ часу до завутрени
Бѣлые камни раскацилися,
Жовты пески поразсыпалися,
А невѣрные попугалися,
Ницъ на земельку покидалися.
Уставъ же Христосъ да изъ гробика,
Его личико свѣтлёшенько,
Его плацьцице да бѣлюсенько,
Да явився жъ Енъ Мироносицамъ,
А дали потомъ всѣмъ Апостоламъ.
Православныя жь всѣ спровѣдали,
Якъ мы вамъ цеперь исповѣдали.
Не томице вы насъ, подарице насъ:
Починальничку чарку горѣлки,
Еще сала кусокъ подмазаць вусокъ,

*) Колокольчикъ—цвѣтокъ, растущій отъ частыхъ дождей.

Кажному пѣвцу по красному яйцу,
Мѣхоношому торбу съ грошами.

Слѣдующіе поздравительные стихи въ старину сочинены кѣмъ то изъ грамотныхъ простолюдиновъ, знающимъ священную исторію ветхаго завѣта.

Пречистая середь ночи
Пуспилася со всей мочи,
Плачучи на гробъ Христовъ,
На Голгофу межъ кустовъ.
Поздзирала вельми ноги,
Бо боялась синагоги,
И наткнулась на Христа.
Ёнъ её спросивъ спростà:
Штожъ ты, моя маци, плачешь?
Я воскресъ, сама ты бачёшь.
Хоць на пупъ жиды кричаць,
Што нарушена печаць;
Хоць жовнерамъ (*солдатамъ*) дали плату
Штобъ брехали тамъ Пилату,
Што ихъ змогъ найкрѣпкой сонъ,
И Христа хтось вынесъ вонъ.
А я много мѣвъ работы
Подъ часъ святыя суботы,
Покуль пекло (*адъ*) погасивъ
И Адама воскресивъ.
Якъ почула злая сила,
Што самую смерць скосило;
Побѣжали къ Аарону—
Справку вывесць по закону,
Ци пришовъ Мессіи часъ,
Штобъ отъ пекла ўсихъ Ёнъ спасъ?
Ааронъ очки надзѣвъ
И въ Быбліи поглядзѣвъ,
Не уцерпивъ, засмѣявся.
Куцый заразъ догадався,

Бѣжиць на пекельну браму (*ворота*),
Ажъ идзець Христосъ къ Адаму
И въ архиву скоро шасъ!
Ажъ пекельня затреслась.
Куцый зашатався съ ляку (*со страху*),
Трудно стало небораку (*бѣдняку*);
Предъ Христомъ ни мертвъ, ни живъ,
А Христосъ его спросивъ:
„Гдзѣ старенька баба Ева
Што гризнула плодъ отъ древа?"
Куцый кочергу узявъ,
Въ печи крѣпко помѣшавъ.
Ева вылѣзла изъ печи,
Обгорѣли вельми плечи,
А за ею и Адамъ,
Ажъ Христосъ здзивився самъ:
Весь избитъ и исколотъ;
Зъ голоду запавъ животъ!
Горько, горько зарыдавъ,
И на Еву поглѣдавъ.
Взявъ его Христосъ за руки,
Расказавъ про свое муки,
Отпусцивъ обоихъ въ рай,
Штобъ забыли гетый край.
Тутъ Адамъ изъ пекла драла,
Ева на вси жилы брала:
На бѣгу догнали Лота,
Ажъ кровава пѣна зъ рота,
Якъ енъ чиниць въ райскій садъ,
Не огляждаясь назадъ.
Ной старенькій спотыкався
И до раю прямо дрався.
Славный богатыръ Самсонъ
Што бывъ вельми ласъ (*лакомъ, охочъ*) на сон
И што здався на покусу (*искушеніе*),
Крикнувъ Навину Исусу.

Штобъ енъ сонце придзержавъ,
Покуль вечеръ не наставъ.
  Праведныя души вышли;
Илія на коняхъ въ дышла,
Елисею давъ жупанъ.
Разступився Іорданъ,
Стали райскія вороты
Насцижъ въ дзень новой Суботы.
Тутъ премудрый Соломонъ
Зазвонивъ у райскій звонъ.
Ўси собралися по звону,
По заслугамъ, по закону,
Посадзили усихъ за столъ.
Тутъ и Божій бывъ престолъ.
Самъ Ботъ яйцами златыми
Похристосовався зъ усими,
Разговѣвся святый міръ
И почався вѣчный пиръ.
Новое подали пиво;
Тутъ Давыдъ усимъ на дзиво
Пріударивъ въ гусли такъ,
Што не уцéрпѣли никакъ.
Сарра въ тую жс годзину
Прежъ всихъ вышла на средзину,
Съ Авраамомъ въ танецъ шла,
Ў всихъ на ноги подняла.
Исаакъ процерши вока
Сталъ съ Ревеккой Сарры съ боку.
Яковъ кинувъ свой костыль,
Ставъ при ихъ, взявши Рахиль.
Тутъ придавъ Іуда жару,
Взявши подъ ручку Ѳамару!
Тутъ припомнила Эсѳиръ
Красенъ съ гуслями Псалтырь,
Тутъ ударили въ тимпаны,
Во всѣ струны и органы

Ажъ до олтаревыхъ рогъ,
Штобы бывъ прославленъ Богъ.
Тутъ и бабки, тутъ и внучки
Вси побралися за ручки,
Пошли въ вѣчный корогодъ.
Слава Богу въ родъ и родъ!

Д. Купальныя.

1.

Совнико, совнико! чёму Иванова ночка невеличк
Совнико, совнико! Бо ты рано усходзишь,
С. с.! рано усходзишь да играючи
С. с.! играючи, Яна взвеличаючи.
С. с.! Дзѣвонька да не выспалася,
С. с.! шнурки вязала,
С. с.! шовковые, да свадебные
С. с.! сему, тому продавала,
С. с.! свойму милому да даровала,
С. с.! сему, тому по три гроши,
С. с.! Свойму милому, што найхорошій.

2.

С. с.! Иванъ съ Петромъ ходзюць,
С. с.! да по межамъ ходзюць,
С. с.! да жита глядзяць,
С. с.! да идучи говорили:
С. с.! Усё жито доброе,
С. с.! Юрасево еще лѣпшее,
С, с.! Габрусево да найлѣпшее;
С. с.! Юрасево въ трубы въсцца,
С. с.! Гаврусево въ скирды кладзецца.

3.

Сегодни Купала, завтра Иванъ,
Будзець, дзѣвочки, лихинько вамъ.

Ишла паненка черезъ боръ
На ей сукенка въ дзевяць полъ;
Стала сукенка шумѣци,
Зелёна диброва горѣци.
Пошли дзѣвочки тушици,
Золотыми кубочками воду носици.
Колько въ кубочку воды ёсць,
Только въ дзѣвочкахъ правды ёсць.
Сегодни Купала, завтра Иванъ.
Будзець, хлопцы, лихинько вамъ.
Ишла паненька черезъ боръ;
На ей сукенка въ дзевяць полъ:
Стала сукенка шумѣци,
Зелёна диброва горѣци.
Пошли хлопцы тушици,
Рѣшетами воду носици.
Колько въ рѣшецѣ водицы ёсць,
Только въ хлопцахъ правды ёсць.
Сегодня Купала, завтра Иванъ,
Будзець, жонки, лихинько вамъ.
Ишла паненка черезъ боръ,
На ей сукенка въ дзевяць полъ.
Стала сукенка шумѣци,
Зелёна диброва горѣци.
Пошли жоночки тушици,
Чепцами воду носици.
Колько въ чепцу воды ёсць,
Только въ женахъ правды ёсць.

4.

Ай нѣту, нѣту купалиша
Да надъ нашего мо́ло̂йца Якуша.
Енъ на конику выѣзжаець,
Себѣ дзѣвоньки выглядаiць.
Самъ же ёнъ ѣдзиць на конику,
Дзѣвоньку везець на возику,

Самъ же ѣдзиць въ атласѣ,
А дзѣвоньку везець у покрасѣ,
Самъ же ёнъ ѣдзиць якъ жаръ горицъ,
Дзѣвоньку везець, якъ цвѣтъ цвѣцець.

5.

Звала Купалка Иллю на игрище:
Ходзи, Иллища, ко мнѣ на игрище!
— Не маю часу, купалочка,
Мнѣ гету всю ночку надо не спаци,
Надо не спаци, жита пильноваци (*стеречь*),
Кабъ змія заломовъ не ломала,
У жици корення не копала,
У коровъ молоки не отбирала.
Отбери, Боже, тому ручки, ножки
Со лба вочки.

6.

Купалочка, гдѣ твоя дочка?
— А въ гóродцѣ на погодзѣ красочки (*цвѣтки*) рвець.
Звивши вѣночикъ, пошла у танóчекъ;
А у танóкъ идучи, похвалилася:
Нихто у мене вѣночка не знимёць!
А гдзѣ узялися буйные вѣтры,
Зняли зъ головки вѣночикъ,
Понесли на синее море.
Пошла дзѣвица, шукаючи, пытаючи.
Спотыкае трёхъ рыболововъ:
Ахъ, рыболовы, братцы мои!
Чи не видзѣли вѣночка мойго?—
Ой, дзѣвица, ни шукаць, ни пытаць:
Твой вѣнокъ на синемъ морѣ;
Будземъ сѣци закидаць—вѣнка шукаць (*искать*).
Вы, рыболовы, братцы мои,
Одному отдамъ золотый персцень,
Другому отдамъ шолкóву хустку (*платокъ*),

А за треццяго я сама пойду.
Што персцень дала—меньшій брацецъ,
Што хустку дала—середній брацецъ,
А за старшаго сама пошла.

7.

Цёмная ночка купалочка,
На морѣ вутки купалися,
На бережочку сушилися;
Наша Настулька засмуцилася,
Што ее дары не прядзеные,
Хоць прядзеные, не свиваные,
Хоць свиваные, не снуваные,
Хоць снуваные, не вытыканые,
Хоць вытыканые, не бѣлёные,
Хоць бѣлёные, не дзѣленые,
Тому сему по локцику,
Свойму милому не мѣрючи.

8.

Купала на Ивана! ай дзѣ ночевала?
Купала на Ивана! ночевала у Ивана.
Купала на Ивана! што у Ивана вечерила?
Купала на Ивана! вечерила варенище на олеищи.
Купала на Ивана! ѣла рыбку съ перцомъ,
Купала на Ивана! ѣла чеснокъ зъ олейцомъ.

9.

У папа Ивана посередь двора
Стояла верба, на вербѣ горѣли свѣчки.
Зъ той свѣчки капля упала—возеро стало,
Въ томъ возерѣ самъ Богъ купався
Зъ лытками (*ногами*) межъ витками. *)

*) У Терещенки V, 77; съ дитками, судитками. *О. М.*

10.

Иванъ да Марья
На горѣ купалися.
Гдзѣ Иванъ купався
Берегъ колыхався,
Гдзѣ Марья купалася
Трава разсцилалася.

## Пѣсни полевыхъ работъ, а особенно жнивныхъ.

1.

Собирайцеся тучки въ кучки,
Да заразъ дожджикъ будзе
Хозяинамъ на вздыханье,
А намъ на оддыханье.

2.

Золото мое, золото, на току молочено,
На столѣ посыпано; хто золото полічецъ (*сочтетъ*),
Тэй на войну не поѣдзецъ.
Да нашъ панъ молодзенькій золото полічецъ,
На войну не поѣдзецъ самъ,
Пошлецъ служку молодого и коня вороного;
Коникъ будзе гарцоваци, служка воеваци,
А нашъ панъ полеваци.

3.

Да йграло совнико, играло;
Не много жь ёно играло;
У хмурку (*тучку*) сховалося,
Дождж у боялося.
Комарочки мое,
Не кусайце мене,
А кусайце пановъ,
Не пускаюць што домовъ.

4.

Коли жъ тая середа пройшла,
Якъ я не ѣвши на пригонъ пошла,
Весь дзень жала не лѣнилася,
Злому войту *поклонилася*;
А цеперь же не о чемъ тужиць:
Войтъ пьяный у корчмѣ лежиць.

5.

Да зелёный боръ, зелёный надъ усими борами,
Да славёный нашъ панъ, славёный надъ усими панами.
У нашего пана купя на дворѣ играе,
На дворѣ играе, соболя́ вызывае:
Собблю, собблю, погуляемъ зъ тобою,
Развеселимъ пана и паню молодую.

6.

Да ужо жь вечеръ вечерѣёць,
Нашь панъ веселѣёць,
По постацямъ поѣзджае,
Свое жнейки пригоняе:
Жнице по постаци, жнице,
Сами себе не пожнице
Да й мене пана молодого,
Мене пана богатаго,
Мойго коня стрекатаго (*пестраго*).

7.

Да уже вечеръ вечерѣе,
Наша пани веселѣе,
По постаци походжае,
На погоду заглядае:
Дзякуй Богу за погоду,
Што мои жнеи въ полю,
Косцы мое на болоцѣ,
Уси людзи на рабоцѣ.

8.

Да у нашего папа,
Да не добрая слава
По мѣсяцу жито жали,
По зарямъ копы клали.
Цемно въ полѣ, цёмно;—
Бодай (*дай Богъ*) ему цемнѣй было.
Што до хаты не пущае,
Да на полю насъ тримае (*держитъ*),
Да мы съ поля позно йдзёмъ
Да пригонятаго клянёмъ.

9.

Пора жонки домовъ нци, || Поцеряла зоря ключи,
Поцеряла зоря ключи, || Коло постаци идучи,
А съ совникомъ гуляючи, || А мѣсика гука́ючи,
А взойдзице ясны зорки || И пайдзице ключи звонки:
Пора землю отмыкаци, || Пора росу выпущаци.

10.

Спюдзеная роса пала.
Пусци мене домовь, пани;—
Мое домы далекіе,
Переходы великіе,
А семь миль горою нци,
А восьмая долиною,
Дзевятая къ свикратку въ дворъ,
А свикратокъ переймае
Съ цисовыми ведзерками,
Шовковыми почопками, *)
А шлецъ мене молодзицу
У дунай **) по водзицу.
А свекратокъ мой татонька,
Не воды жь ты жадаешь,
Мене зъ свѣта сбываешь.
Хоць ты мене зъ свѣта збудзешь,
Усё тобѣ одно будзёць.

---

*) *Почопка*—дужка у ведра (Словарь г. Носовича, стр. 490).
**) *Дунай* тутъ, вѣроятно, *рѣка вообще.—О. М.*

11.

Ци вышла цёмная туча съ за цемнаго лѣсу?
Не вышла цёмная туча съ за цёмнаго лѣсу,
Тольки вышевъ зъ буйнаго вѣтру дробный дожджикъ.
Ци вышла наша добродзѣйка передъ жнейками?
Не вышла наша добродзѣйка передъ жнейками,
Тольки высылала сынковъ соколковъ и дочекъ перепелокъ;
Пытае: ци много нажали?
Мы сжали поле не змѣрное, копы не зличенне.

**в) Во время толоки или при прошеныхъ жнеяхъ.**

12.

Разгорися вечерняя зорка передъ ранней,
Росходзися нашъ паночекъ передъ жнейками,
Разставляйце цисовые столы, цисовенькіе,
Наливайце золотые кубки, золоценькіе,
Разсцилайте шо̂вковые обрусы, шовковеньки,
Привитайце першую жнейку постацяночку,—
Сыръ на тарелку и кварту горѣлки.

13.

Да гудзець поле, гудзець,
Толока съ поля идзець.
Нашъ панокъ не злекайся (*пугайся*),
У поконкъ не ховайся (*прячься*),
Выкаци бочку пива,
А другую горѣлочки,
Мы жнейки не жовнерки (*солдатки*),
Не попьемъ усей горѣлки,
Наша пани мила
Дасць намъ бѣлаго сыра.

14.

У нашего господаря
Кудрявая голова
Ёнъ кудзерками потресець;
Намъ горѣлочки принесець;
Ёнъ кудзерками поворосиць,
Горѣлочку подсолодзиць.

**г) Во время дожинокъ.**

15.

Принесли пану вѣнокъ
Зъ широкого поля, зъ ядренаго жита.

Панъ свойго панства не страцицъ,
Намъ за вѣнокъ заплацицъ.
Хоць червоный злотый *) для нашей охоты,
Житу на урожай, а пану на довгій вѣкъ,
Пану вѣнокъ, а намъ горѣлки жбанокъ.

16.

У нашего пана пригоже на дворѣ,
Хорошо на дворѣ побудованы свирны (*кладовыя*),
Гонтами (*тесомъ*) побиваны, соболями покрываны;
Коло того будыночку **) не соколъ летаець,
Нашъ панъ похожаець, якъ макъ зацвѣтаець,
Да за имъ дзѣтки, якъ садовыя квѣтки.

17.

Да што у полю гудзець?
Да весёлъ посолъ идзець,
Весёлыя вѣсци несець
Да до славнаго пана.
Хоць не много пожано,
Да много нажали.
Да сто копъ до обѣда,
Да другія до полудня,
А трецція до вечери.
То для нашего пана добрая слава

18.

Судзивъ Боже пожаць, || судзи жь, Боже, и спожиць. ***)
Перенесъ Богъ черезъ серпокъ, || перенеси жь, Боже, черезъ легенькій душокъ. ****)
Дай же, Боже, || на току умолотомъ,
У дзѣжи (*квашнѣ*) подходомъ, || у печи ростомъ;
У печи ростомъ || на столѣ сыцьцю! (*сытостью*)
Не могу болѣй рачиць (*желать*) ||, прошу пана выбачиць. (*извинить*)

---

*) Монета—цѣною въ 15 коп. сер.

**) *Будынокъ*—господскій домъ (Словарь г. Носовича, стр. 37).

***) *Спожйць, споживáць*—употреблять въ пользу (Слов. г. Носовича, стр. 605).

****) *Душокъ*—теплота на осѣти или овинъ (Слов. г. Носовича, стр. 149).

19.

Паночекъ, паночекъ, || Прими нашъ вѣночекъ,
Запали, паня, свѣчку, || Да выйдзи намъ на сустрѣчку.
Паночекъ, паночекъ, || Перейми жь нашъ вѣночекъ.
Вѣночекъ панъ переймаёць, || Золото даваёць,
Насъ хлѣбомъ и солью || Въ добрымъ здоровью надзѣляёць,
А мы жнейки жали, || Силку поцеряли || И на гето заробляли.

20.

У насъ сянни (*сегодня*) война была,
Усе поле звоевали,
Змели поле мецелками,
Идзёмъ домовь веселками.
Нивка, моя нивка,
Оддай мою силку.

21.

Дубочекъ зелёненькій
Нашъ панъ молодзенькій,
Лѣщина цемнѣйша,
Наша пани молодзѣйша.
Щасця-долю маюць
Рано зъ поля збираюць.

22.

Голубокъ щиплецъ бобокъ,
А голубка пшоночку,
Нашъ панокъ сыщецъ медокъ,
А паня горѣлочку.

23.

Конецъ нивцѣ, конецъ,
Уплящемъ пану вѣнецъ,
Да ужо жито у конца,
Да нуце дзѣвочки до вѣнца.

## Поздравленія.

24.

Виншую (*поздравляю*) пановъ вѣнкомъ,
А паны мене медкомъ,
Перенесъ Богъ черезъ серпокъ,
Перенеси Боже черезъ душокъ (на овинѣ, гдѣ сушатся снопы)
Черезъ осётку *) матку
Черезъ легкій духъ.

*) *Осётка*—небольшой овинъ (Слов. г. Носовича, стр. 367).

Судзивъ же Богъ пожаць,
Судзижъ, Боже, спожиць,
Въ корысци, въ радосци.
Дай же, Боже, паномъ || Зъ гетого добра
Пиво вариць, || Паничовъ жениць,
Горѣлочку гнаць, || Панено́къ за мужъ отдаваць,
Дай же, Боже, паномъ || Зъ добрыми дзѣтками
На жицце на богацце,
На довгій вѣкъ || И добрый совѣтъ.

25.

Паночекъ, паночекъ, рахуйся (*разсчитывайся*) зъ нами,
Плаци жь, плаци, хоць талерами.
Да мы жь твою пивку зжинали,
Да мы жь свою силку спогеряли.
Слава да и слава, паночекъ, твоя,
Да пьяна, да и пьяна толока твоя,
Да учинивъ, учинивъ паночекъ славу,
Попоивъ, попоивъ толоку свою.
Щекотала сорока на тычинцѣ сѣдзючи,
На тычинцѣ сѣдзючи, на хмѣлинку глѣдзючи.
Похвалився паночекъ зъ панею сѣдзючи,
Попоивъ жнеечекъ зъ дубовой бочечки,
Зъ дубовой бочечки, зъ золотыя чарочки.

26.

Зеле́нъ нашъ боръ, зеле́нъ || Надъ усими борами.
А за што жь ёнъ зеленъ? || Повно красочекъ по ёмъ.
Славенъ нашъ панъ, славенъ, || Надъ усими панами.
А за што жь ёнъ славенъ? || Одно гумно жита нажавъ,
А другое яриночки,
А выкацивъ бочку пива, || А другую горѣлочки.
Пійце, дзѣвочки, пиво, || А жоночки горѣлочку.
А дзиво жь намъ, дзиво, || Што пшонное пиво.
Чего тому дзивицися, || што можно напицися?

*

## Пѣсни веселаго содержанія.

а) *Забавныя, даже смѣшныя и разгульныя веселаго содержанія, употребляемыя при общественныхъ вечернихъ сходбищахъ и при плясках.*

1.

А ў нашего сусѣда
Учора была бесѣда:
Свиня въ дуду играла,
А курица скакала,
А пѣтухъ припѣвавъ,
И ножкой прибивавъ.

2.

А ў насъ вчора троуръ бывъ,
Комаръ дровъ нарубивъ,
Муха лазню (*баню*) топила,
Блоха воду носила,
А вошь парилася,
Перестарилася,
Съ полка звалилася,
На смерць забилася.
А пошлиць по попа,
По запечнаго клопа.
Стуку-грюку по вулицѣ,
Ѣдзиць клопъ на курицѣ.
Милы мое вороны,
Вы ударьце во звоны!
Милы мое сороки,
Рыйце ямы глыбоки.

3.

Стара баба недужа,
А въ полёты (*на ухаживанье*) досужа:
А у полёгахъ подпила,
На припечку спаць легла.

А тамъ мыши шалѣли,
Хвартукъ бабѣ проѣли.
Стала баба плакаци:
Нечимъ хвартукъ латаци (*заплатать*).
Заплакала голоскомъ,
Да й зашила волоскомъ.

4.

Охъ ѣла я кисель, да й покапалась:
Кого вѣрно я любила, съ тымъ повадзилася.
А я рыбку варила, да не шумовала *),
А я милаго любила, да не шановала (*не уважала*).
Буду рыбку варици, буду шумоваци,
Буду мужа любици, буду шановаци.
А я рыбку варила, на кусочки дзѣлила.
У кого черный вусокъ, тому рыбки кусокъ,
У кого рыжа борода, тому й юшки **) шкода.

5.

Ой ты кисель, ты кисель,
Да не мудрый бацькинъ сынъ!
Чему не хòрошо ходзишь,
На бокъ шапочки не носишь?
Кабы дзѣвушки любили,
Кабъ малодушки хвалили.

6.

Зайграйце музыки!
Мы лапци велики,
Мнѣ татулька носъ сплёвъ
На святый Покровъ.
А якъ гетые протрецè,
Ёнъ другіе мнѣ сплецè.

---

*) *Шумòвàць*: 1) Кипѣть ключомъ, выбивая пѣну. Рыба шумуець. Горшки шумуюць. 2) Снимать съ кипящаго кушанья пѣну. (Слов. г. Носовича стр. 719).

**) *Юшка* — ушица, сокъ отъ чего либо варенаго. Рыбная юшка. (Слов. г. Носовича, стр. 725).

7.

Дзѣвчиница!—„Ты чего?“—
Люби мене голого!
Я кошули не ма́ю,
А женицца думаю.
Якъ кошулю добуду,
Женицися не буду.

8.

Чикѝ чикѝ, чичику
Ѣдзиць баба на быку,
Пытаецца ў Василя:
—Ци далеко до села?
— Ахъ ты баба биндавока, *)
Видзишь, село не далеко.
Василь кажець: три мили;
Василиха: четыри.
Василиха Василя
Полоникомъ **) зацялà.

9.

Косивъ, бацька, косивъ я,
Косили мы обоя,
Накосили стожокъ сѣна,
Пришла коза да й поѣла. (Не полная)

10.

Апанасъ коней пасъ,
Кацерина бычки;
Почекай, не ўцекай,—
Куплю черевички.

---

*) *Биндавокій* — имѣющій высунувшееся на глазу бѣльмо. (Слов. г. Носовича, стр. 26).

**) *Полоникъ*—деревянная разливная ложка. (Сл. г. Носовича, стр. 462).

Ты Андрей, не дурѣй!
Хвартукъ подзерецца;
Мнѣ татулька пошивъ,
Штобъ Михалка любивъ.

11.

Пошовъ панъ Апанасъ
По горѣлочку для нась:
Зачепився да за пень,
Простоявъ тамъ цѣлый дзень.
Пришла паня, отчепила,
За горѣлку заплацила;
Идзи жь дурень до дому,
Да не хвались ни кому.

12.

Сѣдзѣвъ я на пни,
Нюхавъ табаку.
Пришовъ ко мнѣ мужъ,
Просицъ тобаки.
Я ему недавъ,
Ёнъ же мнѣ задавъ.
Я къ тобѣ, пане,
Разсудзи, пане.
Сѣдзѣвъ я на пни. (И далѣе повторяется до назойливости).

13.

А хто хочецъ пиво пици?
Пойдземъ до жидовки!
А у жидовки чорны бровки,
Високи подковки.
Високи подковки
На бокъ похилились (*погнулисъ*),
А на цебя, шмаровозе, *),
Дзѣвки подзивились.

---

*) *Шмаровозъ*—подмазывающій телѣги; неряха, замараха. (Слов. г. Носовича, стр. 714).

Покинь, покинь, шмаровозе,
Подъ возомъ лежаци
Возьми косу да йдзи въ лозу
Травицу скошаци.

14.

Ой тошно мнѣ, не развеселюся:
Хлопцы не любюць, пойду утоплюся.
Ой утоплюся въ зеленомъ винѣ,
Пойду разшибуся ў мягкой перинѣ.
— Стой не разшибайся, душу загубишь,
Скажи мнѣ правду, кого вѣрно любишь?
— Твой шестакъ битый, а мое три гроши;—
Повѣнчаемся, мой милый хорошій!
— Твой талерикъ битый, моя золотовка;—
Повѣнчаемся, мила бѣлогловка.

15.

Якцичиньки! не могу! (я больна)
Уступила гусеньки на ногу.
— Якая гусенька? — Сѣрая.
Болицъ моя ноженька лѣвая.

16.

Гэй-чукъ дзѣвка, люблю цебе!
Не ѣшь хлѣба, возму цебе.—
Дзѣвка того послушала,
Три дни хлѣба не кушала.
А скурвысынъ обманивъ,
И зъ голоду уморивъ!

17.

Служивъ я у пана першее лѣто,
Выслуживъ у пана курку за гето.

Моя курочка злотоперочка
По двору ходзиць,
Да писклятокъ (*цыплятъ*) водзиць,
Хохолъ надымаець
Писклятъ собираець
И сокочиць: ко, ко, ко.
Служу я у пана другое лѣто,
Выслуживъ у пана индыка за гето.
Мой индыкъ носъ спускаець,
Да индычекъ собираець,
Кричучи: кулдыкъ-булдыкъ.
    Моя курка: ко-ко-ко,
    Мой индыкъ: кулдыкъ-булдыкъ.
Служу я у пана трецсе лѣто,
Выслуживъ у пана гуся за гето,
Мой гусакъ голову подымаець,
Голову подымаець, гусокъ собираець,
Кричучи: га-га-га.
    Моя курка: ко-ко-ко;
Мой индыкъ: кулдыкъ булдыкъ,
Мой гусакъ: га-га-га.
    Служу я у пана четвертое лѣто,
Выслуживъ у пана целе (*теленка*) за гето.
Мое целе хвостомъ меле,
    Моя курка: ко-ко-ко,
    Мой индыкъ: кулдыкъ-булдыкъ,
    Мой гусакъ: га-га-га,
    Мое целе хвостомъ меле.
    Служу я у пана пятое лѣто,
Выслуживъ у пана корову за гето.
Моя корова бодзець здорова.
    Моя курка: ко-ко-ко,
    Мой индыкъ: кулдыкъ-булдыкъ,
    Мой гусакъ: га-га-га.
    Мое целе хвостомъ меле,
    Моя корова бодзець здорово.

18.

Гэй, кабъ намъ быць веселѣй!
Гэй, кабъ намъ быць посмѣлѣй!
Пойдземъ, браццы, въ кабачокъ,
Выпьемъ горѣлки крючокъ.
Водка крѣпка, мѣра спора,
Будземъ пиць, забудземъ горе;
Браццы, якъ у добрый годъ
Заведземъ тутъ корогодъ.
Пойдзёмъ отъ хаты до хаты,
Ци голышъ хто, ци богатый;
Коли будзець весело,
Къ намъ зберѐцца ўсе село.
Карпъ, якъ по колядзѣ зъ мѣхомъ,
Грошей, альбо збожжа, *) смѣхомъ
Соберець, такъ будець ладъ;
Будземъ пиць горѣлку въ рядъ.
Пили бацьки и дзѣды
И мы вступимъ въ ихъ слѣды:
Ены горя незнавали,
Горѣлку добре сцебали (*пили залпомъ*).
Челомъ, Гришка! челомъ, Дзёма!
Челомъ, Кузьма! зови Пахома!
Чего еще будзёмъ чекаць (*ждать*)?
Пора горѣлку пиць, скакаць.
Помовчи лѣпшь, не варися (*не бранись*)
Зъ нами йдзи скакаць, Марися!
Замовчи й ты, Силивонъ!
Не замовчишь, пойдзешь вонъ!
Дзядзька сѣдзиць, пипку курыць,
Пьець горѣлку, вочми жмурыць;
А дзядзина (*тетка*) не ўважаець **),
Цѣлкомъ чарочки глотаець.

---

*) *Збожже* — всякій хлѣбъ въ зернахъ и въ посѣвѣ. (Слов. г. ча, стр. 196).

**) Въ смыслѣ—не обращаетъ вниманія.

Савка скачецъ, пишёцъ, пышёцъ,
Уморився, ледва дышёцъ.
Борисъ, строгій телялёгъ (?)
Упившися, подъ лавку легъ.
Силивонъ зъ Бориса шкелицъ (*смѣется*),
Пьецъ горѣлку, лухту (*вздоръ*) мелицъ;
За языкъ въ маликъ (*затылокъ*) зловивъ,
Ажъ лбомъ дзвери отворивъ;
Хведосъ за угломъ козлы дзере *),
А Микита посомъ орѐ **).
Ци имъ черци падавали?
Знацъ, что мѣрку перебрали!
Нападаючи на Варьку,
Хведоръ зацѣваецъ сварку (*брань*);
Нехай же ёнъ не звиницъ,
Коли въ вухѣ зазвиницъ.
Ўси съ собою въ драку сцялись,
Свое хохлы дзѣлицъ взялись.
На лихо вось тутъ аконо̀мъ
Влецѣвъ, нагрянувъ зъ бизуномъ.
„Тобѣ мужикъ сваволицъ досицъ!
Свербицъ, знацъ, *тая* ***)—перцу просицъ."
Разсыпались уси наши розно,
Куды попало, куды можно.
Одинъ сховався бывъ подъ столъ,
Его ако́номъ за хохолъ.

19.

Были у бацьки три сыны.
Охъ я! (Припѣвъ этотъ повторяется за каждымъ
А ўси были Васили.

---

*) т. е. его рветъ.
**) Падаетъ пьяный.
***) *Оная*, т. е. неудобоназываемая часть тѣла.

Одзинъ коній пасецъ,
Другій лапци плецецъ,
Трецці сѣдзицъ на камени,
Дзержицъ дуду на ремени.
Енъ повѣсивъ дуду
На зеленомъ дубу.
Буйный вѣцеръ повѣёвъ,
Я ўхопицъ дуду невспѣивъ.
Дуда зъ дубу звалилася,
На трусочки (*въ дребезги*) разбилася.
Ци не дудка жь была!
Веселуха была,
Веселила мене
На чужой сторонѣ.
Ахъ я бѣдный цеперъ!
Пришлось пасцвицъ мнѣ цецеръ (*тетереве*
Я цецерку пасу
У кленовымъ лѣсу.
А цецерочка подъ мостъ:
Я цецерку за хвостъ.
Вырвалась моя цецерка,
Оставила съ хвоста перко.
А съ пера я здзѣлавъ дудочку,
Коморову самогудочку.
Ставъ я въ дудочку играци,
Ставъ себе я споцѣшаци.
Несецъ бацька пирогъ,
Несецъ матка пирогъ.
Я въ дудочку: гу-гу-гу!
Ўси мнѣ несуцъ по пирогу.
Назбиравъ я пироговъ
Цѣлыхъ семь коробовъ.
Поставивъ я коробы
Съ пирогами, якъ грибы,
На повѣточку (*навѣсъ*) сушицъ,
Ажъ повѣточка крекчицъ.

Повѣточку проломило
И целяточекъ побило.
А целяточки ревуць,
Къ господыньцѣ бѣгуць.
Господынька прискочила
И дудочку расчепила.

б) *Пѣсни, поемыя для пляски самими танцующими не только у крестьянъ, но и болѣе у шляхты и даже въ мелкопомѣстныхъ домахъ, вмѣсто музыки.*

1.

А по улицѣ молойчикъ идзець,
По широкой ёнъ дзѣвицу ведзець.
Эй джги, джги, говори! по широкой ёнъ дзѣвицу ведзець.
На ёмъ шапочка бархатная,
Рукавички бараневыя.
(Припѣвъ повторяется со вторымъ стихомъ каждаго куплета).
Дзеверъ, дзеверъ, дзеверинушка,
Ай дзѣ твоя живоцинушка?
Коровочки у дубровочки;
Овечечки возлѣ рѣчечки,
А свиночки на долиночки,
А козеньки возлѣ лозеньки,
А козеньки возлѣ лозеньки,
Лошадочки на площадочки.

3.

Курицъ-вѣецъ мецелица,
Чему старый не женицца?
Ухъ, ухъ, ухъ-у-ха, чему старый не женицца?
(Припѣвъ: ухъ, ухъ, ухъ-у-ха повторяется съ приложеніемъ второго стиха каждаго двустишія).
Да еще-жь я и не старъ;
Еще вусъ мой сивъ не ставъ.

Курицъ-вѣецъ мяцелица,
Твой хохолъ ўжо бѣлѣецца.
Гето-жъ бывъ я на гумнѣ,
Пыломъ занесло мене.
А якъ гето да й не пылъ?
Тогды дзѣвки дадуцъ въ тылъ.
Курицъ-вѣецъ мецелица,
Твое вусы забѣлѣлися.
Гето ѣвъ я молоко;
Не выцерся хорошо.
А якъ не молоко гето?
Кожна прогонецъ кобѣта (*женщина*).
Курицъ-вѣецъ мяцелица:
Староча голова бѣлѣецца.
Я заразъ пришовъ съ млынка,
То на головѣ мука.
А якъ гето не мука?
Бабы дадуцъ тумака.

3.

Старый старичище,
Чему не женився?
Гэй! думай, думай, думай, чему не женився?

(Припѣвъ: Гэй! думай, думай, думай! повторяется за двустишіемъ съ прибавленіемъ послѣдняго стиха).

Радъ бы я женицца,
Да некого взяци.
Стару бабу взяци,—
На печцѣ дзержаци;
На печцѣ дзержаци,
Киселемъ кормици;
Киселемъ кормици,
Да сытой поици.
Молодую взяци,—
Небудзецъ любици.

А хоць и полюбиць,
Мене не обнимець;
А хоць и обнимець,
Да не поцѣлуець;
А хоць поцѣлуець,
Да на землю плюнець.

4.

Ой юръ, юръ, юръ! *)
Да юрочки мое!
Животочки мое!
Да чему-жъ ты, юрокъ,
Да не женишься?
Да и дзѣ-жь ты зимою
Да подзѣнешься?
Ю - - - - - - ръ.
Ой юръ, юръ, юръ!
Да юрочки мое,
Животочки мое!
Охъ и радъ бы-жь я
Да женицися;
Да сороку узяць,—
Щекотлива ее маць:
Усю ночь не спиць,
Ўсе щекочицца,
Ко мнѣ юрочку
Не пригорнецца (*не прижмется*),
Не привернецца.
Ю - - - - - - ръ!
Ой юръ, юръ, юръ! (и далѣе какъ и въ первомъ куплетѣ).
Ой юръ, юръ, юръ!
Да юрочки мое!

*) *Юръ* — шалость. своевольство; *юро́къ* — шалунъ, вертлявый мальчикъ (также птичка, предвѣщающая дождь—см. Слов. г. Носовича стр. 725).

Животочки мое!
Охъ и радъ бы же я
Да женицися,—
Да ворону узяць:
Довгоносая мацъ;
Не спицъ усю ночъ,
Да усе чисцицъ носъ;
Ко мнѣ юрочку
Не пригорнецца,
Не привернецца.
Ю - - - - - - ръ
Ой юръ, юръ, юръ.
Да юрочки мое (и далѣ весь первый куплетъ).

(Въ слѣдующемъ куплетѣ повторяется пять стиховъ второго куплета и продолжается).

Да плисичку узяць *),—
То богатая знаць!
Охъ у плисицы
Да три тысячи!
Усю ночь не спицъ,
Треба тысячи личицъ (*считать*).
Ко мнѣ юрочку
Не пригорнецца,
Не привернецца.
Ю - - - - - - ръ.

(Опять повторяется первый куплетъ, если находятъ новое лицо изъ птицъ. Но другіе вмѣсто птицъ вставляютъ во второй, четвертый, шестой и далѣе куплетъ, дѣвицъ разнаго состоянія какъ-то:)

Ой юръ, юръ, юръ!
Да юрочки мое!
Животочки мое!
Охъ и радъ бы-же я
Да женицися;

---

*) *Плисица*—птичка плиска, вертошейка (Слов. г. Носовича, стр. 418).

Да поповну узяць:
Богомолливая мацъ;
Усю ночь не спиць,
Да усе молицца.
Ко мнѣ юрочку
Не пригорнецца,
Не привернецца.
Ю - - - - - - ръ.

(Въ четвертомъ куплетѣ).

Да купчанку узяць:
Не податливая, знаць (*видно*)
Усю ночь не спиць
Ўсе торгуецца....

(Въ пятомъ куплетѣ).

Да жидовку узяць:
То корослива, знаць,
Усю ночь не спиць,
Да ўсе чешёцца....

(Въ дальнѣйшихъ куплетахъ перемѣна лица зависитъ отъ выдумки поющихъ).

в) *Любовныя.*

Я сегодня тутай, а завтра абыйдзѣ (*гдѣ нибудь*);
Шукай мене мой миленькій, якъ совнико зайдзе (*зайдетъ*),
Якъ совнико зайдзе, взыйдуць (*появятся*) ясны зорки,
Тогды придзи, мой миленькій, до моей коморки.
Тамъ увидзишь, тамъ увидзишь мое бѣло личко;
Тамъ подъ оконцемъ цечець рѣчка, рѣчка не величка.
Гета рѣченька цечець зъ вишнёваго саду.
Кликавъ милый дзѣвчиницу къ собѣ на пораду (*совѣтъ*).
Ой порадзь мнѣ, дзѣвчиночка, якъ родная маци!
Ци мнѣ цеперь женицися, ци восени ждаци?
Ой я тобѣ, мой миленькій, раджу и не раджу (*обманю*),
Я съ тобою вечеръ сѣжу, завтра може зраджу (*измѣню*).
Бодай цебе, дзѣвчиночка, съ гетакою радой!

Я съ тобою щиримъ (*искреннимъ*) серцемъ, тыжъ ко мнѣ со зрадой!
Нехже твоя горька доля тогды за мужъ выйдзёць,
Якъ у млынѣ на каменѣ пшениченька взыйдзёць.
Бодай жеть мой миленькій тогды оженився,
Якъ бы въ лѣсѣ на вересѣ (*родъ травы*) сухій дубъ развився.

2.

Ой у полѣ курно да дымно,
За туманомъ свѣту не видно.
Тольки воду брала дзѣвица,
Якъ козакъ поивъ коня въ криницѣ,
Да почавъ ёнъ дзѣвку чепаци,
Съ ведзеръ ее воду выливаци.
— Не выливай, козакъ, зъ ведра воду,
Отъ мачихи буду церпѣть бѣду,
Скажець: гдзѣ ты, сука, пребывала? —
Знаць, съ казаками жартовала (*шутила*).
— Да твоя мачиха, знаць, дужо думна,
А ты, дзѣвонька, да будзь разумна.
Скажи, што гусеньки плыли съ броду
И взмуцили мнѣ чистую воду.
А я дотуль на бережку стояла,
Покуль вода да чистая стала.

3.

Я перепеличка пцичка не величка:
Въ поли летаю, къ древу привертаю,
Къ древу привертаю, сокола шукаю (*ищу*).
Соколъ мой ясный, молойчикъ прекрасный,
Згордзився ты мною, якъ вѣцеръ горою,
Якъ туманъ долиною, якъ сонце калиною.
Вуланъ приглѣдаець за красной дзѣвчиною;
Вуланчикъ до хатки, пытаецца у матки:
— Матулька моя, айдзѣ донька твоя?
— Донька вышла въ поле пшениченьку жаци.—
Вуланъ до пшеницы, ажъ нѣтъ тамъ дзѣвицы.

Вуланчикъ до хатки, пытаецца у матки:
— Матэнька моя, а й дзѣ донька твоя?
— Пошла до гаёчку (*лѣсу*), збираци грибочковъ—
Вуланъ у гаёчекъ, пропавъ и слѣдочекъ.
Вуланчикъ до хатки, пытаець у матки:
— Мамочка моя! айдзѣ донька твоя?
— Пошла до коморы посцель бѣлу слаци.

4.

Ахъ ты, милая моя!
Прошу на хвацеру я.
Приходзи ко мнѣ до дому,
Не быць знаць того никому.
Въ дому писарь мой да я,
Трецції вѣрный мой слуга.
А я вѣрнаго слугу
За цымбалами пошлю,
За медкомъ и за пивцомъ,
За солодзенькимъ винцомъ.
Дамъ червоны черевички,
Съ устужками (*лентами*) невелички,
И бѣлевыя панчошки (*чулки*),
И сафьяновы сапожки
На бѣлыя твое ножки.

5.

Волы мое половые (*бурые*), чему не ореце?
Лѣты мое молодыя, чему не гуляеце?
Волы мое половые, да ўже отъорались:
Лѣты мое молодыя, да уже отгулялись.
Дробна пташечка по лисцикѣ скачёць;
Бѣдный рольничекъ (*земледѣлецъ*) по дзѣвчинѣ плачець.
Якъ не плакаць, не тужиць? слюзы сами люцца;
Вѣсци отъ милой нейдуць, отъ немилой шлюцца.
А хоць шлюцца, хоць не шлюцца, моею не будзе,
Хто дала мнѣ бѣлу ручку, за мной жици будзе.

6.

А на дворѣ снѣгъ напавъ;
А молойчикъ съ коня спавъ.
Якъ съ коня спавъ, такъ лежиць,
Ажпо милая бѣжиць.
Скоро мила прибѣжала,
За рученьку подзержала,
За правую узяла,
И подъ ручку повела.
Въ дворѣ его миловала,
Щиримъ сердцемъ цѣловала.
То Марьяночка была,
То дзѣвчиночка мила.

7.

А въ томъ новомъ селѣ дзѣвчина стояла,
Дзѣвчина стояла, съ милымъ розмовляла.
— Пытаю ў цебѣ, милый, ци много коней маешь?
Коли много маешь, чему жь ко мнѣ не бываешь?
— Одного коня маю, въ дворѣ не тримаю.
Пойдзець конь до криницы зимней воды пици:
Я его поймаю, а поймавши осѣдлаю,
Поймавши сѣдлаю, къ тобѣ прибываю,
Привезу дарунокъ—золотый персцёнокъ,
Золотый персцёнокъ, едвабны панчошки,
Сафьяны сапожки на бѣлые ножки.

8.

Я сама иду и бѣду веду,
Да бѣда моя не дужо ведзецца,
Подъ берёзою спаць кладзецца.
Положу бѣду въ вишнёвомъ саду;
А сама пойду, пойду погуляю,
Якъ бѣла рыбка гуляе по Дунаю.

Тамъ у свѣтлицѣ младый писарь пише,
Дзѣвица за дверьми дзицятка колыше,
Дзицятка колыше, гулечекъ (*голубокъ*) бае,
Гулечекъ бае, кота припѣвае,
Кота припѣвае, дзиця проклинае:
Бодай мое дзиця зъ люльки упало,
Зъ люльки упало скрозь землю пропало,
Моя за тобою уся гульня пропала.

9.

Положу бѣду
Въ зеленомъ саду
Подъ зелёною грушей,
А сама и пойду
На усю ноченьку
На усю цемную гуляци,
Черезъ ноченьку,
Черезъ цемную
Свойго милого шукаци (Не полная).

10.

Ѣхавъ козакъ съ украины,
Пусцивъ коня у долину,
Подъ зелену самъ елину
Легъ на цѣлую годзину.
Щасливая годзиночка!
Пришла къ ему дзѣвченочка:
Устань, козакъ, обудзися,
Ѣдуць Татарскія раци,
Хочуць твойго коня взяци,
Коня взяци вороного,
Цебе забиць молодого.
Коня возьмуць, другій будзе;
Цебе забьюць, жаль мнѣ будзе.
„Знать ты дзѣвка мене любишь,
Што такъ рано мене будзишь!“

Кабъ я цебе не любила,
То бы цебе не будзила.
Цебе, козакъ, щиро люблю,
На край свѣта съ тобой пойду.
„Ты дзѣвица молодая,
Твоя голова глупая!
Гдзѣ со мной тобѣ ходзици,
По усему свѣту бродзици?
Будзешь дома проклинаци,
И на мене нарѣкаци.

11.

На цихенькей рѣчьцѣ писарь гусей стрѣляе,
Писарь гусей стрѣляе, на молойцовъ мигае.
„Вы молойчики мое, а ходзице до мене!
А скажице паненцѣ, што въ червоной сукенцѣ:
Нехай замужъ идзе, а мене не хай не жджѐ:
Я ўсе ее не люблю, ее замужъ не возму.“
Ена гето почула, въ вишневый садъ махнула:
Накопала корення съ подъ бѣлаго камення
А вымыла у рѣчьцѣ и варила въ молоцѣ;
Поставила на жару, кипяцила на легцѣ.
Еще корень не ўкипѣвъ, заразъ писарь прилецѣвъ.
„А што-жъ цебе принесло! ци човночекъ, ци весло?“
Мене сюды принесло ни човночекъ, ни весло.
Принесъ мене сивый конь до паненкиныхъ вoконъ.
„А чего жъ ты прилецѣвъ, коли любиць не хоцѣвъ?“
Якъ къ тебѣ мнѣ не лецѣци, коли ўмѣешь чаровaци.

г) *Пѣсни, состоящія въ легендахъ или расказахъ.*

А пошовъ сынъ Данило на войну воеваць,
А оставивъ жену Кацю въ дому домоваць (*хозяйничать*).
Обиждалась стара маци на сына Данилу,
Што оставивъ домоваци не ее, а милу.
Ена къ сыну на войну листы (*письма*) посылала,
Што его Кася мила въ хозяйствѣ не дбала (*непопечительна*).

Его сукна дорогія, богатые шаты (*одежды*)
И пистолеты въ злоцѣ повынесла съ шафы.
Молодая его жонка мила Кацерина
Да ему породзила не живого сына
Вороцився домовь скоро изъ войны Данило:
На перей мы (*на встрѣчу*) выйшла ему Кацерина мила,
А Данилушка схвацивъ востременькій свой мечь,
Милой Кацеринѣ снявъ головеньку съ плечь.
Якъ пришовъ сынъ Данило до палацу (*дворца*) своего,
Ажъ у креслѣ сѣдзиць стара мaци его.
А въ другомъ покоику сынъ его маленькій
Живъ и передъ нянею лежиць у колыбельки.
Спомянувся Данило, взявъ ключи отъ шафы
Поглядзѣць, ци цѣлы его дорогія шаты.
Ажно шафы его, якъ были повнюсеньки,
Пистолеты и шаты, якъ были, цѣлюсеньки.
Согрѣшивъ я, маци, согрѣшивъ надъ мѣру,
Согрѣшивъ я, давши твоимъ словамъ вѣру.
Што жь ты, маци, мнѣ зробила? (*сдѣлала*) Ты три человѣка—
Невѣстку, внука и мене згубила на вѣки!
Ты неправдою на грѣхъ мене наусцила,
Внука свойго и мене ты осироцила.

2.

Было село да невесело!
Жили людзи тамъ старинные,
То село было надъ возеромъ.
А зъ возера на продзивъ *) дзиво—
Змѣй престрашный выходзивъ зъ воды,
Хватавъ дзѣцей и большихъ людзей;
Подводзили ему чергою (*поочередно*)
И просили Бога плачучи,
Штобъ избавивъ ихъ отъ эгтого
Страшнаго змѣя проклятаго.

---

*) *Продзивъ*—чудо изъ чудесъ (Словарь г. Носовича стр. 521).

На мою бѣдну головочку.
Я коровку напой да накорми,
Рано вставши, на поранки гони.

12.

Била жонка мужука, руки заносивши;
А ёнъ же ёй поклонився и шапочку знявши.
„Да спасибо, моя мила, што поциху била!
Куплю тебѣ гарнецъ меду и коновку пива.“

13.

Гуляй, гуляй, молода,
Ещё тобѣ не бѣда!
А по моей головѣ
Ўсё застàнецца тебѣ:
Ступа, жорны и рожонъ
И сторожа и пригонъ.
Въ ступѣ што хочешъ стовче́шъ,
Рожномъ хату подопрешъ,
Въ жорнахъ усе, што хочешъ, смѣлишъ,
Рогозземъ посцель засцелишъ...
А до ступы есць товкачъ,
Хоць ты плачъ, хоць ты скачъ.

14.

Ой мамка моя, а я дочка твоя!
Чему жъ мене не вучила, якъ я мала былà,
А цеперь ўжъ я велика,
Треба ко мнѣ чоловика *(мужа)*,
Ни стараго, ни малòго,—
Молойчика молодого.

15.

Пригнавъ старый жидъ до насъ
За наборы забирацъ.
Мене въ дворѣ не было́,

Ўзявъ ёнъ ложки, помело.
А мой пѣвень господарь
Да ўсэхъ курей распродавъ,
Тольки еднўю чубату
Па заводъ пусцивъ на хату.
Сѣли курки на снопу,
Мнѣ знесли яецъ копу.
Я яечки продала,
Пожалѣла помела.
Жиду довги отдала,
Ложки й помело ўзяла.

16.

Я ў горо̀дчику ходзила,
Я морковочку рѣдзила (*вырывала, чтобы рѣж*
— Што ты робишь, моя мила?
Спытавъ мене господарь!
— Ци я ў цебе, мой мужу,
Да за наймитку служу?
Ты, мужъ, жито продаешъ,
Да мнѣ грошей не даешъ.
А я зъ родзинкой сойшлася,
За морковочку папилася,
За цыбульку да за макъ.
Вышла замужъ я не такъ,
Вышла разъ, да не заразъ,
Не подманéшъ въ другой разъ.
Удалися мнѣ въ знакѝ
Мужуковы кулакѝ.
Кулаками по бокамъ
А ладоньми по щекамъ.

17.

Черевички я згубила,
Въ дворѣ босякомъ ходзила.
Зиръ (*глядь*) я ложки подъ исподъ (?)

Знашла лапоць и чоботъ.
Хвала Богу, што нашла,
Я обулась и пошла.
Черезъ гребельку иду,
Якъ голубонька гуду.
Нехай наша шляхта знаець,
Што чоботы паня маець.
Самъ на встрѣчу попадаець,
Да й у мене ёнъ пытаець:
Чего жъ, паня, надулася?
Ци што въ боты обулася.
Коли жъ въ госци ты собралась,
Чому въ кожухъ не прибралась?
— Бодай у цебѣ бывъ такій духъ,
Якъ ёсць у насъ якій кожухъ.

18.

*Дуэтъ*

„Бабка моя, голубка моя!
Будземъ хату топиць,
Будземъ сову вариць,
Соколка моя, голубка моя!
— Дзѣдзюхна мой, лебедзюхна мой,
На што хату топиць,
На што сову вариць,
Коли не чимъ посолиць,
Соколику мой, лебедзику мой!
„Бабка моя, голубка моя!
А иди жъ ты къ сусѣду,
Да позычъ соли ложку,
Посолиць сову трошку.
Соколка моя, голубка моя!
— Дзѣдзюхна мой, лебедзюхна мой,
На што жъ намъ позычиць,
Коли нечимъ отдаваць?
Соколику, мой, лебедзику мой.

„Бабка моя, голубка моя!
Будземъ пашню пахаць,
Будземъ довги отдаваць.
Соколка моя, лебедка моя!
— Дзѣдзюхна мой, лебедзюхна мой!
А ўжо жъ наша пашня
Вся за довги пошла;
Соколику мой, лебедзику мой!"

19.

*Дуэтъ.*

„Хто зо мною, хто зо мною?
За цихій Дунай, хто зо мною?
—Я съ тобою, я съ тобою,
За цихій Дунай я съ тобою!
Хто ў цебе ёсць, хто у цебе ёсць,
За цихимъ Дунаемъ, хто ў цебе ёсць?
„Есць у мене тамъ оцецъ и мацъ,
За цихимъ Дунаемъ оцецъ и мацъ.
Хто зо мною, хто зо мною?
За цихій Дунай, хто зо мною?
—Я съ тобою, я съ тобою,
За цихій Дунай я съ тобою!
Хто у цебе ёсць, хто у цебе ёсць?
За цихимъ Дунаемъ хто у цебе ёсць?
„Есць у мене да два братцы,
За цихимъ Дунаемъ да два братцы!"

*На второй вопросъ такимъ же порядкомъ поютъ двѣ а въ концѣ самой пѣсни поется.*

Есць у мене жена зъ дзѣцьми,
За цихимъ дунаемъ жена зъ дзѣцьми.
Такъ поѣдзимъ, такъ поѣдзимъ
За цихій Дунай такъ поѣдзимъ!

20.

На цихинькомъ Дупаѣ, Дунаѣ
Перевозъ дзѣвка тримала, тримала (*держала*).
*Припѣвъ* {Въ лузѣ малина, свѣтло, видно,
Соловейки щебечуць.
Да пришовъ же къ ей бацинка, бацюшка:
„Перевези мене, донечка, донечка“
Я жъ цебе, бацюшка, незнаю, незнаю;
Первозничка не маю, и не маю.
*Припѣвъ* {Въ лугѣ калина, цёмно не видно,
Соловейки не щебечуць.
Да пришла къ ей матухна, матухпа:
„Перевези мене, донинечка, донечка“
(*тотъ же отвѣтъ и припѣвъ*).
Да пришовъ же къ ей брахника:
„Перевези мене сестрица.“

(*Отвѣтъ и припѣвъ тотъ же, такъ же и при просьбѣ сестр*

Да пришовъ же къ ей миленькій, миленькій:
„Перевези мене, милая, милая“
Я жъ цебе, миленькій, познала, познала,
Первозничка наняла, наняла.
*Припѣвъ* {Въ лузѣ малина, свѣтъ и видно,
Соловейки защебетали.

21.

Бацька добрый—бацька добрый, а маци лихая:
Не пускаець на вулицу, што я молодая.
Я жъ молода плотъ сломила, бѣгучи съ разгона,
Блукаючи, шукаючи свойго молодзёна.
А у мойго молодзёна личко, якъ у пана,
Только ему и пригана (*порока*), што нема жупана.

22.

Густый гаю, густый гаю, густый—не проглянуть!
Не поймаю голубочка, пусцивше въ поляну.

Пусци мене, моя маци, у тэй садъ гуляци!
Ци не придзе́ць мой миленькій своихъ воловъ пасци.
— Пасицеся, мое волы, не бойцеся вовка,
А я пойду до дзѣвчины, што змыта головка.
А ци змыта, ци незмыта, а быбъ не пробита,
Руса коса до пояса шовкомъ перевита.
„Ой пій маци, тую воду, што я наносила,
Люби, маци, того друга, што я полюбила.
— Я не буду воду пици, буду проливаци:
Не люблю я зяця мого, буду разлучаци.
„Не проливай воды, маци, мнѣ цяжко носици,
Не разлучай зъ милымъ другомъ, не вѣкъ съ тобой жици.
Сама воды наношу, сама буду пици,
Сама друга полюбила, зъ имъ и буду жици.

23.

— Ўчора была суботэнька, сегодни недзѣля,
Чему жъ ў цебе, мой миленькій, кошуля небѣла?
„Ой якъ ёна будзѐць бѣла, не мыта повъ рока:
Сестра мала, матка хвора, милая далёка.
— Ой я стану у рѣченьки, стану на бугрочку,
А вымыю и высушу милому сорочку.
— Покинь же ты, чернобрива, кошулю качаци:
Возьми серпокъ, да йдзи въ поле пшениченьку жаци!
— Я у мамы не жала, и ў цебе не буду;
Узложивши сукеночку, похожаци буду;
Шовковою хусточкою помахиваць буду.
Покинь, милый чернобривый, лежаць на кроваци;
Возьми топоръ, идзи на дворъ, тамъ дровы рубици.
— Я й у таты не рубивъ и ў цебе не буду:
Ўзложу собѣ красный сурдукъ, похожаци буду,
Шовковою хусточкою помахиваць буду.

24.

Да не сонъ мою головоньку спаць клониць,
То брацецъ да сестру съ двора доловъ гониць.

Пойду я молода да доломъ долиною,
А спытаюся я у вербоньки съ калиною:
Да куды, вербонька моя, дорожка пошла?
Куды, калинушка моя, сцежка пролегла?
Да ци у лѣсъ, ци у боръ мѣсто цѣнистое?
Да ци дорожку выбрацъ у поле чистое?
Ў цёмномъ лѣсѣ у бору усё пни да гнилица,
Ў чистомъ полѣ бѣла ярь да пшеница,
А ў пшеницы тэй да ракитовый кусточекъ,
За ракитовымъ кустомъ вишнёвый садочекъ,
А въ томъ садочку соловейко свищицъ,
А лихой свекоръ своей невѣстки ищецъ.
„Хоцъ ищи, хоцъ не ищи, къ двору не вернуся;
Хоцъ вернуся, да твойму сыну не покорюся;
Хоцъ покорюся, да посцели слацъ не буду,
Хоцъ посцелю посцелю, да спацъ зъ имъ не лягу,
Хоцъ я лягу, да я легши обернуся къ сцѣнѣ.
Якъ пошла я молода у лугъ зелененькій,
Сустрѣвъ мене тамъ казакъ молодзенькій,
Да ставъ у мене дорожки пытаци;
Я молода не знала, што ему сказаци.
„Ци въ лѣсу ты, дзѣвка, ци въ бору жила,
Што незнаешъ куды дорожка пошла.“
— Не на то мене мама на свѣтъ породзила,
Штобъ я въ дому се господынькой была.
Ой пошла я коло братняго двора,
Братъ убачивъ ў вокошка, къ ему идзецъ сестра.
Знаю, братка, ты госцей много маешъ,
Да на свою родную сестру забываешъ.
— Кабъ ты, сестра, да добрую долю мѣла,
То и ты бы у мене за госцейку сѣдзѣла.

25.

Да сынъ матцѣ коморочку грѣе,
Да сынъ матцѣ посцелечку сцеле.
„Ци цепла, мамочка, коморочка твоя?

Ци мяхка, мамочка, посцелька твоя?
— Да цепла, сынокъ, коморочка моя
И мяхка, сынокъ, посцеличка моя,
Да только цвердо твоей жены слово:
На ложе ишла, доброночь! не дала,
А зъ ложа встала, добрыдзень! не сказала.
— Выбачь, мама, выбачь, коханинька!
Ена вчора да была пьяненька,
А сегодни головка ломила,
Добрыдзень! тобѣ сказаць забыла.
Буду вучици, буду навучаци,
Якъ мамочцѣ добрыдзень! отдаваци

26.

Ой, Бо̀же мой, Боже, якъ шкода молодосци!
Живу одзинъ, трачу лѣты, плачу со злосци.
Есць у мойго ойца да кони вороные,
Поѣду догоняць я лѣты молодыя.
— Дзиця мое, дзиця, дзицятко дорогое!
И кониковъ загонишъ и лѣцевъ недогонишъ.

27.

Боже мой, Боже, спаци хочу!
Положу головку на таткину ўзголовку.
Татка идзе, глядзь на мене!
„Дзицятка дорогая, вышла замужъ молодая,
Да не выспалася.“
Боже мой, Боже, спаци хочу,
Положу головку на маткину ўзголовку.
Мамка идзе, глядзь на мене!
„Дочухна дорогая, вышла замужъ молодая,
Да не выспалася.“
Боже мой, Боже! спаци хочу,
Положу головку на свекрову ўзголовку.
„Свекоръ идзе, глядзь на мене!
„Сонливая, дремливая

Невѣстка моя!“
Боже мой, Боже спаци хочу,
Положу головку на свекрухину ўзголовку.
Свекруха идзе, глядзь на мене!
„Сонливая, дремливая
Невѣстухна моя!“
Боже мой, Боже, спаци хочу,
Взложу я головку на милаго ўзголовку
Милый идзе, глядзь на мене!
„Да возьму я котаночку (*душегрѣйку*), накрыю коханочку,
Нехай собѣ спиць.“—

28.

У саду береза коренистая,
У мене свекрова норовистая:
Сама спаць ляжець, мнѣ робиць кажець.
Якъ тутъ середъ цемной ночи мнѣ по воду ици!
Зачувъ мой миленькій, коней пасучи.
„Не плачь, моя мила, коней попасу,
Коней попасу, воды принесу!
Матку напою съ повнаго ведра:
Пи, мама, зъ ведра—твоя невѣстка хвора!
— Будзе и другая! Да не такая!
— Будзе середольшая! *) Да гетой горшая!

29.

Смертухна—матухна
Бери моихъ воловъ у ярмѣ,
Пусци мою жонку ко мнѣ!
Мнѣ не съ кимъ горе гореваци,
Не съ кимъ дзѣцей годоваци,
Нема съ кимъ вѣку коротаци.

---

*) *Середольшій* — старшій изъ среднихъ по лѣтамъ. (Слов. г. Носовича, стр. 578).

30.

У ровнымъ полѣ корчомочка стоиць,
А ў тэй корчомцѣ два брацика пьюць.
Одзинъ братка пивъ, коника пропивъ,
Другій братка пивъ, да й жонку пропивъ.
Што коня пропивъ, свиснувъ—вороцивъ,
Што жонку пропивъ, руки сощепивъ.
Пришовъ до хатки, плачуць дзицятки!
— Ой татка, да гдзѣжъ наша матка?
— Пропивъ я матку на солодкомъ меду.
Построю вамъ хатку новюсенькую!
Возьму вамъ матку молодзюсенькую!
— Згори тая хатка новюсенькая!
Здохни тая матка молодзюсенькая!

31.

По городзѣ хожу да шалфею сажу.
Матка мене журиць, што не женатъ хожу.
— Оженися, дзѣтка, оженись, сыночку!
Возьми панночку, удовину дочку!
— Удовина дочка, ёна мнѣ не ровна,
Ходзиць по мѣстэчку, словно королевна.
На ей сукенка зелёнаго цвѣта,
Съ позументами чистая саєта *).
Ой добраночь! усимъ въ гетой сторонѣ;—
Смѣялася донька ўсе лѣто зъ мене.
Куплявъ я тэй доньцѣ дороги панитки;—
Были у мене два жупаны, цеперъ нема й свитки.
Куплявъ я тэй доньцѣ калёны орѣшки;—
Была у мене пара коней, цеперъ хожу пѣшки.
Справлявъ я тэй доньцѣ дорогіе шаты (*одежды*);—
Мѣвъ я два дворы, цеперъ нема й хаты.

---

*) *Саєта* - тонкое французское сукно (Слов. г. Носовича, стр. 572).

32.

Ой да оженився старый зъ молодою,
Словно разсѣевся куколь зъ лебедою!
Ой да пошовъ старый у поле ораци,
Его молодухна у корчму гуляци.
Ой да пришовъ старый изъ поля у двору.
„Што не принесла ты мнѣ ѣсци у пору?
— Выбачь, мой старичокъ, мнѣ стало не ловко,
И цеперь еще моя болиць головка."
Ой пошовъ старый отъ хаты до хаты,
Своей молодухѣ зелля пытаци.
Да принесъ старый дубоваго сала;
Помазавъ ей спину, ажъ шкура отстала.
Тогды молодуха съ посцели вскочила,
Съ посцели вскочила, вечерыць зварила.

33. *).

Захоцѣла баба да й побогацѣци,
Посадзила курочку, штобъ вывела дзѣцей.
Выпусцила баба писклятокъ попасци,
Сама сѣла при ихъ кудзелочку прясци.
Насунула хмура, дождживъ покропляе,
Бабуленька въ кучу писклятъ собирае.
Одного поймала, троихъ затоптала;
Повернулась плохо, па пяцёхъ упала,
А встаючи на остатнихъ ступала.
„Боже жъ мой, Боже, да штожъ я зробила!
Да придзець же мой воркунъ, будзець же мнѣ лихо."
Пришовъ и дзѣдъ зъ лѣсу: „Што тутъ цихо въ хацѣ?
Штожъ, бабулька, въ хацѣ писклятъ не чуваци?
— „Я пусцила ихъ троху погуляци.
Якъ на дзиво на якое собралися людзи.
Призарили (*сглазили?*) писклятъ, кабъ заперли грудзи!"
Ой якъ узявъ дзѣдъ въ руки сырую хлудзину (*хворостину*),

---

*) Ср. стр. 162—163 въ „Памятникахъ Нар. Творчества въ Сѣверо-Западномъ краѣ." Вильна 1866 г. (сб. П. А. Гильтебрандта).

Почесавъ бабули головку и спину.
„Бодай твоя, дзѣдзька, борода вылѣзла,
Забивъ бабу сусимъ, насилу вынесла:
Бодай тобѣ, дзѣдку, рученька усохла:
Забивъ бабу свою, за ледви не здохла.

34.

На мяхкомъ лужку мужикъ сѣно косиць.
Прилегши къ косѣ, бѣдненькій голосиць.
— Што ты, косецъ, плачешъ? може коса тупа,
Альбо жоночка твоя дужо скупа.
— Моя коса востра, жонка-жъ дужо злая;
Принесла обѣдаць да гультаемъ лае,
Принесла къ обѣду ссохлую скоринку,
Ссохлую скоринку да воды барилку.

35.

Хвала Богу, хвала Богу, што я упилася!
Упилася, бо съ своимъ родочкомъ сошлася.
Да родокъ мой не велиць повнэй выпиваци,
Да ёсць же у мене три бѣды у хацѣ.
Одна, што мужъ не удалъ, другая—дзицятко,
Трецццяя бѣда—лихая свекратка.
Взыйду я подъ вокно на цыпочкахъ цихо:
А зирну, якое мужъ мой робиць лихо.
Ажно мужъ мой милый дзицятко колыше,
Подли его плачучи, матка ледви дыше.
Люли, люли, люли, дзѣтка дорогая!
Разгулялась твоя матка молодая.
„Гуляй, ахъ, погуляй, моя ты черноброва.
Покуль головонька моя еще здорова.
Да якъ здоровьико мое часомъ звихнецца,
Тогда гулянико твое сусимъ минецца.“

36.

Кабы я знала, кабы вѣдала
Да свое горькое замужество,

Тобы я за мужъ не хваталася (*не торопилась*),
У свойго бъ отца годовалася,
Пила бы, ѣла бы ўсе готовинькое
И носила бъ ўсе хорошенькое,
Русу косу ўсё-бъ расчесывала,
Русой косѣ ўсё бъ приговаривала:
Ой коса моя ты русинькая!
Да кому-то ты, коса, достанешся?
Ци подружечку поручничку,
Ци якому пивоварничку,
Ци тому, што у корчомцѣ пьець,
Ци тому, што ўсе шклянки бьець!

37.

Бѣлая березка дай похилилася:
Жена съ мужемъ да й посварилася.
Вставши раненько, мужъ жену просиць:
Встань, моя милая, погнѣвалась досиць (*довольно*).
Встань, милая! принесъ тобѣ я пива.
— Дай мнѣ покой: я й такъ ледви жива!
„Встань, милая, я принесъ тобѣ меду!
— Дай мнѣ покой, не добуду году!
„Встань, моя милая, принесъ тобѣ я водку!
— Дай мнѣ покой, залій собѣ глотку.“
Пошовъ мужъ въ лѣсъ по зелле, по калину,
Да вырѣзавъ лозину на жонкину спину.
— Дзякуй тобѣ, милый, за твое здоровье!
Ты перенявъ мое усякое норовье.
Я не хворѣла, не болѣли косци:
Только такъ лежала съ поганой злосци.

38.

Добры вечеръ, сусѣдочка моя!
Ци здоровенька семейка твоя?
Не пытайся ты семейки моей, —
Журливый мужъ не любиць жонки своей.

Ци я ему коли кошулю шію,
А ёнъ мене бьецъ кулакомъ у шію.
Да я коли ему вечерицъ готую,
А ёнъ мене прецъ съ хаты молодую:
„Заразъ пойдзи, коня мойго знайдзи!
А якъ не найдзешъ,—до хаты лѣпшъ (*лучше*) нейдзи!“
А взыйду я на высокую гору,
Штобъ увидзѣць коня подъ ясную зарю.
„Ой взыйдзи, моя ты ясная заря!
Утопила мене мамочка моя.“

39.

Ци то, Боже, съ твоей воли
Ци зъ несцасной моей доли,
Што я живу, якъ въ пустынѣ,
Трачу лѣты на единѣ?
Кого люблю, того не маю,
Кто мене любиць, не знаю.
Боженька мой зъ високосци,
Приглянь къ моей молодосци!
Выслухай, што я прошу,
Дай мнѣ жонку хорошу!
Штобъ была мнѣ вѣрна, дружна
И слухала слова мужня.
Штобы хаты пильновала (*берегла*),
Мене мужа шановала (*уважала*).

40.

А у лузѣ на бéрезѣ стояла берёза,
А подъ тэй берёзой плачецъ дзѣвица, якъ роза.
„Чего тужишъ? чего плачешъ, бѣдная дзѣвчина?
Чего журишся, небога, якая причина?
Цебе, може, матка била, ци сестра журила?
— А ни маци мене била, ни сестра журила!
Да у мене молодои сами слёзы ллюцца,
Што до мене неудалые кавалеры шлюцца.

Шлюцца, шлюцца неўдалые по три по четыре.
Да у гетыхъ кавалеровъ залёты *) не щиры.
Не отдавай мене, маци, гдзѣ не ладъ у хацѣ!
Отдавай мене туды, гдзѣ мирно у хацѣ!
Гдзѣ дзевери два и три, ёсць съ кимъ размовляци;
Гдзѣ золовки дзвѣ и три, ёсць съ кимъ жито жаци.
Займемъ постаць широкую, будземъ поджинаци;
Якъ же сядземъ полудноваць, ёсць съ кимъ размовляци!
Нема цвѣту синѣйшаго, якъ цвѣтъ василёчекъ,
Нема друга вѣрнѣйшаго, якъ милый дружочекъ!

41 **).

Цёмная, цёмная да невидная ноченька!
Дурная, дурная, не разумная дзѣвица!
Полюбила, полюбила молойца неудалаго:
Взяла его, взяла его да съ корчомки пьянаго,
Положила спаци па цисовой кроваци,
Сама пошла, сама пошла на вулицу гуляци,
Да забыла, да забыла соловейку сказаци:
„Не щебечи, коли рано солдаты бьюць зорю,
Не разбудзи ты мого пьянаго въ коморѣ.
Мнѣ вицци, чи то мой пьяный въ коморѣ не чуець,
Ажно ёнъ на мене нагайку готуець.
Я думала, што пагайка здѣлана съ папери,
Ажъ съ сыраго ремня, я скорѣй за дзвери."

42.

Нѣту лѣпшаго цвѣточка да надъ василёчка:
Нѣту лѣпшія дзѣвицы якъ ўдовина дочка!
Просилася молилася доченька у маци:
„Пусци мене, матуленька, на вулку гуляци!
—Идзи, моя донька мила, да вернись къ вечери,
Тольки не стой, моя донька, тамъ, гдзѣ охвицери:

---

*) *Залёты* — заискиванье расположенья дѣвицы, искательство (Слов. г. Носовича стр. 172).

**) Ср. въ сб. г. Гильтебрандта стр. 36 и 251.

Охвицеры хитры людзи, ошукаюць *(обмануть)* цебе,
Ошукавши ёны, повезуць до себе.“
Донька моя слово матки допереимала,
Да на свою злую долю, на травцѣ задремала.
„Эй, фурманы, коней запрягайце въ кочи!
Повеземъ дзѣвчину середзь цемной ночи.»
Проснулась дзѣвчина да й у чужей хацѣ.
„Пусцице мене къ моей родной мацы!
— Ўжо тобѣ твоей маци вѣкъ не видаци!
Останешся ў насъ на весь вѣкъ гуляци.“

43.

А у недзѣли рано три солдаты засвистали,
Три солдаты засвистали, войну возвѣщали.
У вдовы одна дочка! на войну собираецца,
На войну собираецца, зъ мамою прощаецца.
„Ганнуся, моя донька, не ѣдзь ты середь войска,
Ѣдзь ты скрай дорожки, коло бережочка!“
Ганнуся не слухала, средзь войска поѣхала,
Средзь войска поѣхала и на томъ мѣсцѣ пала;
Якъ пала передъ смерци, до матки листъ писала:
„Поховаюць мене не въ могильничку,
А поховаюць мене при дорожкѣ въ ельничку.»

44.

Ой горы, горы! на одной горѣ кустъ ракитовый,
Подъ ракитовымъ да кустомъ лежыць цѣло бѣлое.
Да нихто къ тому цѣлу не пришовъ приплакаци,
Прилетаюць къ цѣлу бѣлому да три ласточки:
Перша ласточка его родная то мамочка,
Другая ласточка его родная то сестричка,
Трецціа ласточка то жена его, его милая.
А й дзѣ матка плакала, тамъ колодзезь ставъ,
А й дзѣ сестра поплакала, тамъ рѣчка цекла.
А й дзѣ милая поплáкала, тамъ роса пала; —
Взошло совнико, тогды росонька вся пропала.

45.

Пропивъ миленькій, пропивъ,
Пропивъ душенька, пропи́въ,
Пропивъ жонкинъ андаракъ *),—
Ходзиць милый, якъ дуракъ.
Пропивъ вола и коня,—
Ходзиць милый безъ ума.
Пропивъ жену и дзѣцей, —
Ходзиць милый, якъ злодзѣй.

46.

Да оравъ мужикъ при дорозѣ,
Гэй, гэй при дорозѣ...
Да повѣсили торбу на берёзѣ,
Гэй, гэй на берёзѣ...
Да й тажъ торба не простая,
Гэй, гэй не простая.
Шкуроця́ная, не пустая...
*(Припѣвъ съ повтореніемъ послѣдняго слова).*
Да съ пшенишными пирогами...
Да й тамъ дзѣвки грибы брали...
Дзѣвки тую торбу ўкрали...

47.

Прошло лѣто, зима стала, зла пора настала!
Дзѣвчиночка молодая свою долю кляла.
Быстры рѣчки призябли, ручейки не цекуць!
Въ полѣ травочка завяла, цвѣточки не цвѣтуць!
У садочку ни кусточку, дробны пташки не пѣюць!
Дробны пташки не пѣюць, соловейка не щебечиць!
Идзець молойчикъ бравый-жвавый со стороночекъ чужихъ.
„Не плачь, не плачь, моя мила, ты й ще въ лѣцѣхъ молодыхъ.
Зима пройдзець, лѣто станець, возьму замужъ за себе,
Возьму замужъ за себе, на всёгды возьму цебе."

---

*) *Андаракъ*—суконная исподница, юбка (Слов. г. Носовича стр 6).

48.

Ци я была не хозяйка, ци не господыня?
Три дни хаты не мела, смецця (*сору*) не носила,
А вымела разкомъ, а вывезла возкомъ.
Пришли ко мнѣ козаченьки смецця торговаци,
Стали ёны за смецце цѣну мнѣ даваци:
Туды копъ, туды хопъ, за смеццико восемъ копъ.

49.

Ой на бору, на бору,
По широкому двору
Красна дзѣвица идзець,
Словно вуточка плывець,
Русу косеньку плецець,
Приговариваючи:
„Ты росци, моя коса,
До шовкова пояса —
Молойчикамъ любота,
А женатымъ сухота́.“

50.

Лежиць воякъ на долинѣ,
Сложивши головку на купинѣ;
А ни труны (*гроба)*, а ни ямы,
А ни отца, а ни мамы,
А ни сестрицы, а ни братца:
Не съ кимъ было попрощацьца.
Некому его прибраци,
Некому его поховаци,
Некому и поминаци.

51.

Породзила маци сына, породзивши, взгодовала,
Всгодовавши, коня купила, коня осѣдлала.
Коня осѣдлавши, сына посадзила,

Сына посадзила й на войну послала.
Старшая сестра хусточки катала,
Середняя сестра брата убирала,
Самая меньшая у брата пытала:
„Ци скоро ты, братка, зъ войны къ намъ повернешъ?
— А взыйдзи ты, сестрица, на гору́ высоку
И зирни оттуля па рѣку широку:
Якъ перо на дно падзець, камень на верхъ всплынець,
Тогды твой братъ зъ войны до дому повернець.“
Взошла сестра на гору́ круту-высоку
И взглянула на рѣку глубоку-широку:
Бѣлый камень по верхъ плывець, перо потонуло.
Пошла сестра дороженькой да госцинцемъ битымъ,
Стрѣла—ѣдуць три дворяне да въ золоцѣ шитымъ.
„Ци бачили мойго братца?“—Ци не то твой братъ бывъ,
Якъ соколъ ёнъ ўси ночки головы рубивъ,
На чецвертую же ночку свою положивъ.
Коники его ажъ стогнуць, цѣло везучи,
Челядзины его плачуць, за имъ идучи.“

52.

Зашумѣло дзерево, зашумѣло, зелёнѣючи,
Зажурилась ўдовушка, свойго сына лелѣючи.
Ахъ, Боже мой, сына лелѣючи. *(Припѣвъ этотъ: ахъ Боже мой! съ послѣднею половиною втораго стиха повторяютъ послѣ каждаго двустишія).*

„Ци мнѣ цебе, сынку, въ войско отдаваци,
Ци оставиць съ собою горе гореваци?
—Не кручинься, мамочка, не плачь, не тужи!
Велѣй (*лучше*) мене до войска въ солдаты отвези!.
А справъ мнѣ, мамочка, три трубы мѣдныя,
А чецвертую позолоченую:
Въ первую зайграю, коника сѣдлаю;
Въ другую зайграю, на коня сѣдаю;
Въ треццюю зайграю, со двора съѣзджаю;

Въ чецвёртую зайграю, до полку вступаю.
Якъ почула мама чецвертую голосину,
Молилася Богу, штобъ вернуцьца сыну.

# ДОПОЛНЕНІЕ.

1 *).

Ой подъ гаемъ зелененькимъ,
Ой здався мнѣ сонъ дзивне́нькій:
Приснився мнѣ братъ родненькій.
Кажу кони закладаци,
Ѣду брата отвѣдаци:
Подъ ворота подъѣзджаю,
Чую брата говорючи:
„Знимай, жонка, хлѣбъ-соль зъ стола.
Ѣдзе сестра моя голодная."
Жонка мужа не слухала,
Хлѣба-соли не знимала.
Сестра тое якъ почула,
Назадъ коней завернула.
Мужъ на жену посварився,
Вышевъ, да й сестрѣ склонився:
„Сестра жъ моя родненькая,
Прошу цебе обѣдаци,
Да й мене отвѣдаци.
— Я обѣду не хоцѣла,
Цебе братку поглядзѣла:
Есць у мене хлѣбъ соль въ возѣ, —
Будзе обѣдъ у дорозѣ.
Кажу конемъ оброкъ даци.
Сама сяду обѣдаци.

*) Ср. выше стр. 241.

Тобѣ же, братка, повелося,
А мнѣ горе приплелося.
Якъ я дзѣтокъ подгодую,
Свое горе позабуду.

2.

Ой за лѣсомъ, лѣсомъ, у далекомъ краю.
Ани мѣсяцъ свѣцицъ, ани сонце йграе,
Тамъ добрый молодзецъ коника сѣдлае,
Коника сѣдлае, цяжко уздыхае:
Узявъ королёвну, да не собѣ ровну,—
По дворѣ ходзицъ, ключиками звоницъ;
У хатку войдзе, вся дружина встане,
Уся дружина встане и шапки знимае.
„Сядзь, королевна, зъ нами, пій пиво и водку."
Вочами лупнецъ и коркомъ (*каблукомъ*) стукнецъ,
Черевичкомъ брязне: „отступися, блазне!"

3 *).

А поѣхавъ сынъ Данила на войну воевацъ.
А покинувъ Кацерину въ своемъ дому домовацъ.
Маци его старая къ ему листы писала:
„А вернися, сынъ Данилушка, домовъ,—
А уже твоя Кацерина свою волю повела,
Мёды твое солодкіе повычестовала (*испотчевала*),
Сукни твое дорогіе поизнашивала,
Кони твое стаенные поизъѣзджывала,
Гроши твое великіе поразсоривала́."
А вернувся сынъ Данилушка домовъ,
Ажно его Кацерина на переймы вышла,
Сынка его маленькаго на рукахъ вынесла.
А хвацивъ же сынъ Данила вострюсенькій мечъ
И знявъ же ёнъ Кацеринѣ головоньку съ плечъ.
Якъ пошовъ сынъ Данила до шкатулы своей.

*) Ср. выше стр, 118–119.

А въ шкатулѣ его гроши да цѣлёхоньки лежаць.
Якъ пошовъ сынъ Данила да до шафы своей,
А у шафѣ его сукни у цѣлосци висяць.
Якъ пошовъ сынъ Данила да до клѣци своей,
А у клѣци его меды позаплѣсневили.
Якъ пошовъ сынъ Данила да до стайни своей,
А у стайни его кони позачесываны.
Якъ пошовъ сынъ Данила до свѣтлицы своей,
А ў свѣтлищѣ дзвѣ сестрицы дробны слёзки ллюць.
Якъ пошовъ сынъ Данила до пекарни своей,
А въ пекарни Кацерина безъ головки лежиц.
Недалеко Кацерины домовѣрка (*ключница*) стоиць.
Якъ пошовъ сынъ Данила до палацу свойго,
А ў палаци стара маци да у кресли сѣдзиць,
Сынка его маленькаго на рукахъ дзержиць.
„Ой маци, маци! увесь грѣхъ на цебѣ.
Першій грѣхъ—што я молодъ овдовѣвъ,
Другій грѣхъ—што мой сынъ сирота,
Трецій грѣхъ, што Кацеринки нема."

4. *)

У лузѣ соловей калинку клюець,
Лихая свекровка на невѣстку злуець,
Шлець ее молоду въ Дунай по воду.
На ее бездолле пѣтухъ не пѣявъ,
Пѣтухъ не пѣявъ, гусакъ не кричавъ,
Тольки одзинъ вовчища за горою выѣдь.
Плакала молода, къ Дунаю идучи,
А зачувъ миленькій, коней пасучи.
„Небось, милая, я коней пасу,
Я коней напасу и воды принесу.
— Черпай, миленькій, вёдры повненькіе,
Неси, миленькій, по малюсеньку,
Поставь, миленькій, у сѣняхъ на лавцѣ.

---

*) Ср. выше стр. 251.

Не кажи, миленькій, ты своей мамцѣ.
„Вотъ тобѣ, свекровка, зъ Дунаю вода,
Умыйся, напійся съ повнаго ведра.
— Я жъ цебе, невѣстка, не по воду слала.
Я жъ цебе, невѣстка, зъ свѣту сбавляла."

5.

Червонная калиночка
Въ зеленой лугъ схилилася;
Я молода зажурилася,
Што отъ роду отбилася,
Ай отъ роду отъ родочку,—
Цяжко мойму животочку,
Цяжко жици, цяжко быци
Въ чужой землѣ молодзицѣ.
Эй, пойду я, гуляючи,
Своей Доли шукаючи.
Откликнися, моя Доля,
На томъ боку синя моря,
А приплыви, моя Доля,
А къ крутому бережочку,
А къ крутому бережочку,
А къ липовому кусточку,
А къ липовому кусточку,
А напишемъ по листочку
Да пошлемъ до родочку,
Нехай родная прочитае—
Назадъ письмо отсылае.

6.

Каюся молода я не по малу,
Што млода за мужъ пошла:
Живу я годокъ, живу я другій,
У мамки не бываю.
Обернуся я сѣрой зязюлей
И полечу у мамкинъ садъ,

Сяду у мамкиномъ саду
На бѣлой лялéи;
Якъ закукую, якъ защебечу
Жалоснымъ голоскомъ,
Чи не почуе моя маменька,
Подъ воконцемъ сѣдзючи?
Якъ вышевъ старшій брацецъ
Зъ новаго церема:
„Коли зязюля, коли шерая—
Леци у щирые боры;
Коли сестрица, коли родная—
Ходзи ко мнѣ у госци.
— Ахъ добре тобѣ, мой браточка,
Гдзѣ родзився, тамъ и быци,
А я молодзенькая въ чужой сторонѣ—
Цяженько мнѣ жици.
Чужая сторона ту́гою орана.
Слезми засѣва́па;
Своя сторона сошкою ора́на.
Пшонкою засѣвана.

7.

Никому такъ не томненько, якъ мнѣ молодзѣ:
Осталася отъ родзины, якъ листъ на водзѣ.
Якъ выйду жъ я за вороты—зелена трава.
Якъ выйду жъ я за другія—чужа́ сторона.
Якъ выйду жъ я за трецція—вишневенькій садъ:
А въ садъ пошли дзвѣ дорожки, мимо саду одна:
А въ садъ пошли дзвѣ сестрицы, мимо саду одна.
„Вы, сестрицы, вы, родные, голубки мое,
Будзеце жъ вы щипаць вишни, щиплице жъ и мнѣ,
Пойдзице жъ вы къ отцу къ маткѣ, несице жъ и отъ м
Будзеце вы пиць, гуляць, вспомянице и мене;
„Ахъ якъ наша бездольница ў чужой сторонѣ
Да ци живець, ци горюець, ци бѣду бѣдуець:

Сядзиць собѣ подъ воконцемъ, якъ на рожѣ цвѣтъ,
Выплакала свое вочки, неволенъ ёй свѣтъ."

8.

А при крайчику, при Дунайчику
Тамъ два братцики купалися,
А, купаючися, размовлялися,
Да межы ихъ чужеземчикъ бывъ;
Чужеземчика загубиць хочуць.
Одзинъ кажець: „загубимъ его!"
А другій кажець „попытаемся,
Да чи ёсць у его родъ и племе.
Родъ и племе, оцецъ и мамочка,
Оцецъ и мамочка, братъ съ сестрицами,
Братъ съ сестрицами, жена зъ дзѣтками.
— Цихій Дунаю, то мой татэнька,
Сырая земля, то моя матэнька,
У лузи соловей, то мой брацитка,
У бору зялюля, то сестрица моя,
Бѣла берёзка, то жена моя,
У берёзочки розочки, то дзѣтки мое.
Цихій Дунаю, умывай мене,
Сырая земля, прикопай мене,
У лузѣ соловей, пощебечи по мнѣ,
У бору зязюлька, покукуй по мнѣ.
Бѣла борёзка, пошуми по мнѣ,
У берёзки розочки, покивайцеся."

9.

Да поѣдзешь, паниченьку, женицися,
Не ставь коника подъ калиною,
Бо калина дзерево нещасливое:
Весною калину дзѣвки ломюць,
А ў восень калину пташки зоблюць.

Поставь коника подъ яворомъ:
Яворъ дзерево счастливое,
У яворовомъ комлѣ чорные бобры,
У яворѣ въ серѐдзинѣ райскія пчелки,
У явору у верху сивые соколы.
Чорные бобрики—добрые на боцики,
Райскія пчолки — солодо̀къ медо̀къ,
Сивые соколы—да на погулянне.

10.

Ходзивъ парень надъ возеромъ, да й ставъ голосици:
„О якъ цяжко убогому богату любици.
Богатая не думае, што бѣдненькій нудзиць (*скучаетъ*).
Богатая да думае, якъ дзѣцюковъ (*парней*) гудзиць (*хулитъ*).
Поввѣку лѣтъ зживши, я щасця не знаю;
Якъ же о мнѣ Богъ призначивъ, што чяпици маю?
Ходжу-блужу, ходжу-блужу, вѣкъ свой проклинаю,
Што полюбивъ богатую, да ее не маю.“
Лецѣвъ воронъ понадъ моремъ, да й сѣвъ ёнъ на со̀сни:
„Ой мой же ты Прокопочку, не будзь такъ нудо̀спы (*грустенъ*).
Есць же у насъ Парасочка, молода, хоць бѣдна,
Покинь любиць богатую, полюби Параску.
Богатая да пышная цебе глумиць будзе,
А бѣдная Парасинька цебе любиць будзе.“

11.

Ой на што мнѣ свойго милого будзиць,—
Енъ мене молоду̀ не раненько будзиць,
Да самъ ёнъ идзе да на токъ молоциць,
А мнѣ молодой велиць започиць,
А й самъ идзе да на поле ораци,
А мнѣ молодой велиць ици гуляци.
Ой иду я, иду я гуляци,
Кроицца мое серце на ча́сци,
Ой мое сусѣдочки пьюць и гуляюць,
А мене одну бездольную, одну окуляюць (*избѣгаютъ*).

Ой выйду я на вулочку—разсыпаны карты,
Ой гдзѣ жъ мое дзѣвоцкіе подзѣлилися жарты?
Ой выйду я на вулочку—разсыпаны суницы (*земляника*),
Ой гдзѣ жъ мое дзѣвоцкіе дзѣлись вечерницы?
Ой выйду я на вулочку—разсыпаны дули,
Ой гдзѣ жъ мое дзѣвоцкіе подзѣлися гули?
Ой выйду я на вулочку—разсыпаны вишни,
Ой гдзѣ жъ мое дзѣвоцкіе подзѣлися мысли?
Ой выйду я на вулочку, не съ кимъ сказаць словка,
Ой бѣдна жъ я молодзенька, хожу якъ удовка.
Ой крутая берёзонька, што подъ гаемъ взросла,
Нещасная недзѣленька, што я за мужъ пошла.
Ой крутая берёзонька воду замуцила,
Нещасная годзиночка за мужъ покруцила.

12.

Ой чёму жъ то панъ Хамицкій въ тэй часъ не женився,
Якъ у лѣсѣ на орѣсѣ голубъ народзився?
Ой чёму ты, бондаровна, *) въ тэй часъ за мужъ не йшла,
Якъ у млыни на ка́мени пшеничецька взошла?
У мѣстэчку Церастэчку команда стояла,
Тамъ же наша бондаровна всю ночку не спала.
Говорили бондаровнѣ да добрые людзи:
„Уцекай ты, бондаровна, лихо тобѣ будзе."
О якъ скочёць бондаровна межами, лугами,
А за нею панъ Хамицкій съ своими слугами.
А якъ догнавъ бондаровну ў полъ-лощинки,
Такъ ухопивъ бондаровну, не пусцивъ дзѣвчинки,
А привевъ же бондаровну до своей свѣтлицы,
Посадзивъ же бондаровну на бѣлой скамлицѣ,
А казавъ же бондаровнѣ пѣсенку спѣваци,
А самъ пошовъ панъ Хамицкій стрѣльбу набиваци.
„А ци лѣпи, бондаровна, въ сыромъ песку гнији,
Якъ за мною, за Хамицкимъ, въ атласѣ ходзици?

*) *Бондаровна*—дочь *бондаря* (бочара).

— Ой да лѣпи, панъ Хамицкій, въ сыромъ песку гници,
Якъ за паномъ за Хамицкимъ въ атласѣ ходзици."
Охъ якъ выцявъ бондаровну подъ лѣвое вухо,—
Засталася бондаровна и слѣпа и глуха.
Ой казавъ же панъ Хамицкій отъ ранку до ранку
Выкопаци бондаровнѣ глубокую ямку.
Ой казавъ же бондаровну у три дни ховаци,
Да нехай же не плачуцца ее бабка, маци;
Ой пришовъ же ее бацька и сплячнувъ руками:
«Ото жъ тобѣ пришло лихо съ твоими думками.»

13.

Заржали коники на брóду,
Чули ёны на себе пригоду,
Што братъ за сестрой гоницца,
Знявши шапочку клоницца.
„Постой, швáгерка (*шуринокъ*), не уѣзджай,
Дамъ тобѣ коника воронца,—
Верни мою сестрицу отъ вѣнца.
Дамъ тобѣ щабельку—вся въ злоцѣ,—
Верни мою сестрицу при цноцѣ.
Дамъ тобѣ хусточку—вся въ шовкý,—
Верни мою сестрицу у вѣнкý.
— Мнѣ твоей хусточкой не махаць,
Мнѣ съ твоей сестрицей вѣкъ вѣковаць.
Мнѣ твоей шабелькой не воеваць,
Мнѣ съ твоей сестрицей вѣкъ вѣковаць.»

14.

Съ подъ лѣсу, съ подъ цёмнаго лѣсу,
Съ подъ кусточка зеленаго
Вылетае птушечка райская,
Выносиць письмо паньское,
На крылочку написаное.
„Якъ бы намъ тую пташку поймаци,
Якъ бы намъ тэй листъ перечитаци."

Поймала тую пташеньку матуля,
Три сынки родненьки маючи.
Якъ прочитала, то заплакала:
„Которому да щасце даци,
Да чи старшему, чи молодшему,
Да чи Григорьку середольшему?
Тэй же бѣленькій и хорошенькій.
Ена его сподобае, будзе щасливый,
Да на цѣломъ свѣцѣ голосливый.
Што сподобала (*полюбила*), да и узела его
Паненька зъ Украины.
Ой прибирайся, Григорька-сынку,
Щасливый ты будзешъ;
Ѣдзь на Украину въ щасливую годзину,
Тамъ вѣкъ коротаци будзешъ.
Есць же тамъ панна, што цебе возьме
За мужъ и за пана;
Памятуй, сынку, на свою дружинку,
Коли цебе щасце споткае,
Штобъ не забывся, чего научився,
Якъ Бога знаци и на землѣ гореваци.“

15.

„Зелёная берёзонька, чёму бѣла, не зелёна?
— Якъ же мнѣ быць зелёной, при бѐрезѣ стоючи?
Да што дзень купцы ѣдуць,
На кореннахъ огни кладуць,
Черезъ гиллё (*вѣтви*) дымы идуць,
Кореннико подпаливаюць.
„Красна дзѣвонька, чёму смутна, не весела?
—Якъ же мнѣ веселой быци, што дзень госцики,
Што суботы, то свацщики,
Што недзѣли, маршалочки,
Зелёное вино возюць,
Мойго ойченьку поюць,
Мене молодзенькую просюць:

«Красная дзѣвонька, ци пойдзешь ты зъ нами,
Зъ молодыми сватами?»
— Рада бъ я поѣхаци, жаль покинуци
Ойцоваго подворьнка, маткинаго прибраньнка,
Дзѣвоцкаго гуляньика.

16.

Служивъ Иванъ воеводзѣ,
Выслуживъ Касеньку жонку молодую.
Кася листы писала и до Ивана посылала.
„Ѣдзь, Иванъ, до дому, збудуй нову комору,
Штобъ я мѣла, гдзѣ лежаць, свое дзѣтки годовацъ.“
Пріѣхавъ Иванъ до дому, проводзюць Касю до гробу.
„Ой покажице Касю мнѣ, погляжу, чи не живе.“
Пришовъ Иванъ до сѣней, лежиць Кася на столѣ.
Малый сынъ въ колысцѣ. „Люли, люли, сыну мой,
На што цебе Богъ створивъ, коли ты Касю заморивъ?“
Сестра тое учула, да на Ивана вскрикнула:
„Ой не клени ты его,—тобѣ жонка заразъ будзець,
У его матки до вѣку не будзець;
Тобѣ жонка въ вѣночку, ему мамка въ песочку.“

17.

Ахъ у лузѣ калинушка,
А у бору стоиць сосна:
Гдзѣ я пойду похинуся,
Всё на моемъ серцу тошно.
Луги мое зеленые
Да усё не кошоные;
Поле мое широкое,
Да усё не ораное;
Волы мое половые,
Еще не поеные;
Кони мое вороные
Еще не насаные.
Пойду я къ свойму татку на порадку:

Порадзь, порадзь, татуленька, якъ мнѣ гореваци,
Якъ мнѣ дзѣтокъ подховаци (*воспитать*).
— Не горюй, сынку, не горюй, родный,
Будуць поля побраные,
Будуць луги покошеные,
Будуць волы половые
Уси накормленые,
Будуць кони вороные
Уси напоеные,
Будуць твое дзѣтки подхованые.

18.

„Синій соловейка, чёму не спѣваешъ,
Ци ты, соловейка, голосу не маешъ?
— Потрацивъ я голосъ по зеленомъ гаю,
По зеленомъ гаю, по цихомъ Дунаю.
„Чему ты, молодый, чему не гуляешъ,
Чи ты, молодый, щасця-доли не маешъ?
— Потрацивъ я долю черезъ свою волю
У новой корчомцѣ на горькой горѣлцѣ.
Цеперь же мнѣ некуды повернуцца,
Усё мое село у Бораха па водцѣ:
Тутъ мое коники, тутъ мое волики,
Тутъ моя одзежка, тутъ мое грошики.

19.

Сизый голубочку, сѣдзи па дубочку,
Выкликала матка съ корчмы до домочку:
„Ой! ходзи, мой сынку, зъ корчмы да до дому,
Забираюць арендары всю твою худобу (*имущество*).
— Я самъ тое бачу, што худобу трачу,
За дробными слезыньками я слѣду не бачу.

20 *).

У чистомъ поли подъ бѣлой берёзкой
Бѣлый молодзецъ сочивочку (*осоку*) косиць,

---

*) Ср. выше стр. 258.

Покосивши, короваточку сцелиць,
А пославши, спацички кладзецца.
Якъ настали буйные вѣтры
И забили молойца у короватцѣ,
Нѣкому по ёмъ куковаци,
Ай не кому по ёмъ щебетаци!
Прилецѣли три зезюльки зъ бору,
Прилецѣли три сѣренькихъ зъ бору,
Ены стали по ёмъ куковаци,
Ены стали по ёмъ щебетаци.
Одна сѣла у молойца у головцѣ,
А другая сѣла у молойца на серцу,
А трецяя да у бѣлыхъ ёго ножекъ.
А якъ стали по ёмъ куковаци,
А якъ стали по ёмъ щебетаци,
Якъ родныя матки по дзѣцяци!
Што въ головцѣ, то ёго мамулька,
Што на серцу, то его жопухна,
Што у пожкахъ, то ёго сестрица.
Мамка плачець отъ вѣку до вѣку,
Сестра плачець отъ году до году,
Жена плачець отъ обѣду до обѣду.
Пообѣдавши, пошла въ садочекъ,
Свила собѣ на голову вѣночекъ.

21.

Ой жила-была удовка-жидовка,
Была у ее дочка Хайночка.
„Дочка Хайночка, люблю я цебе.
— Пане Зеленькевицъ, пойду за цебе.
Не ѣдзь же ко мнѣ въ недзѣлю рано,
Прiѣдзь же ко мнѣ въ субботу позно,
Коли моя маменька до школы пойдзе.
Прiѣдзь же ко мнѣ у трехъ возочкахъ:
У одномъ возочку скринки, перинки,
А у другомъ возочку серебро и золото,

А ў трецщемъ возочку—тамъ мы съ тобою."
Узявъ я Хайночку подъ бѣлы плечки,
Кинувъ Хайночку въ глубокую рѣчку:
„Вотъ тобѣ, Хайночка, вода и болото,
А мнѣ молодому сребро и злото;
Вотъ тобѣ, Хайночка, жици зъ водою,
А мнѣ оженицися зъ другою молодою."

22.

Зацвѣла въ горо́дзѣ маковка,
Заболѣла у Мариськи головка:
Захоцѣла заморскаго зелля.
Кому ѣхаць за море по зелле?
— Тому ѣхаць, кому рукодзѣлле,—
Татку ѣхаць за море по зелле.
Татка кажêць: „я и коника не маю,
Татка кажêць: я й зеллика не знаю."
Зацвѣла въ городзѣ маковка (и т. д. 5 стиховъ).
Брату ѣхаць за море по зелле (и т. д.).
Зацвѣла въ городзѣ маковка (и т. д. 5 стиховъ).
Ясю ѣхаць за море по зелле (и т. д.),
А Ясь кажець: „я и коника маю
А Ясь кажець: я и зелле знаю."—
Одзинъ коникъ поле перехаць,
Другій коникъ море перелецѣць,
Трецій коникъ до зелля доѣхаць.
А ставъ Ясь зелле копаци,
Стали надъ имъ птушки щебетаци:
„Не копай, Ясенька, зелля,
„Ужо у Мариси другое веселле,
„А ѣдзь, Ясь, лугомъ,-берегомъ,
„А стань, Ясь, у поли подъ шатромъ,
„Будзешъ видзиць якъ сваты Мариси поѣдуць."
— Позволь, позволь, Марисенька, на дворъ.
„Не позволю, Ясюленька першій,
Есць у мене другій милѣйшій.

— Позволь, позволь, Марусенька, въ хату.
„Не позволю, Ясюленька перший,
Есць у мене другій милѣйшій.
— Позволь, позволь, Марусенька, за столъ.
„Не позволю, Ясюленька перший,
Есць у мене другій, милѣйшій.
— Позволь, позволь, Марусенька, танчиць.
„Не позволю, Ясюленька перший,
Есць у мене другій милѣйшій.“
Узявъ Ясь Марысю за лѣвую ручку,
У правой ручцѣ шабельку тримаѣць,
Сцявъ Ясь Мариси головоньку ровно съ плечъ:
Вотъ Мариси заморское зелле,
Вотъ Мариси другое веселле,
Вотъ Мариси: „Ясюленька перший,
Есць же у мене другій милѣйшій.“

23. *).

Въ нашемъ селѣ вѣцеръ вѣе, а въ сусѣднѣмъ цихо,
Въ нашемъ селѣ добра нема, да й въ сусѣднемъ лихо.
У нашихъ войтовъ-икономовъ едвабныя (*шелковыя*) хустки,
А гдзѣ были господарй, то ўсё хаты пустки;
У недзѣлю ранюсенько у два звоны звонюць,
А ў насъ войты-икономы на панщину гонюць.
Якъ за старымъ было паномъ легко на работу:
Увесь тыдзень (*недѣлю*) сядзи дома, шарварка **) въ суботу.
Цеперь за молодымъ паномъ цяжко на работу:
Увесь тыдзень на панщинѣ, шарварка въ суботу.

24. ***).

Тамъ зъ надрѣчча людзи собралися рано,
Кличуць войти въ дворъ на рахубу (*разсчетъ*) до пана.

---

*) Ср. въ сб. г. Гильтебрандта стр. 122, 136—139.
**) *Шарварка*—видъ барщины или пригона для исправленія домашнихъ предметовъ или строеній. (Слов. г. Носовича. стр. 706).
***) Ср. въ сборн. г. Гильтебрандта стр. 60—62, 65, 177.

Стали думку думаць, якъ некрутовъ здаваци.
А й дзѣ два, тамъ нема, а й дзѣ пяць, невеляць,
А й дзѣ три—уцекли. — „У вдовушки ёсць сынъ!
— Да ёнъ у ее одзинъ. — Не глядзѣць, што одзинъ!“
Сестра бывши во дворѣ, тое послыхала.
Прибѣжавши домовъ, брату да й сказала:
„Братку, уцекай скорѣй, поведуць до двору.“
Братъ въ комору скочивъ. войтъ за имъ въ комору,
Енъ въ воконце, черезъ плотъ, въ солому вкопався,
Да бѣдненькой отъ войта и тамъ не сховався.

25.

Якъ рекруциковъ ловили,
Мене Доля не спознала,
Отъ сыщиковъ не сховала.
Руки мнѣ назадъ скруцили,
На ноги колодки набили.
У недзѣли по раненьку
Выбираюць фурманеньку (*подводу*),
До городу провожаюць,
У дорозѣ развлажаюць:
„Цыцъ, некруцикъ, не журися!
Еще молодъ, не згодзишся“.
Я тымъ часомъ не ускрёбъ (*не ушелъ*),—
„Молодзецъ, сказали, лобъ“!
Добраго мнѣ дзядзьку дали,
Енъ мене жалѣзъ въ печали:
„Ляжъ, некруце, пересыпайся,
Да до муштру собирайся.“

26.

Стоиць липа, развалившись високо;
Ее лисце густо, густо и широко.
Тамъ зезюльки кукуюць, соловейки свищуць,
А сыщики тутъ добра молойца ищуць:
—„Не ховайся, дзѣцина, слѣзай зъ липы, здайся;

Въ нашихъ ты рукахъ, слѣзай, не спречайся".
Такъ мене молойца туто полонили,
Руки вяжуць назадъ, колодку набили.
Выбрали подводу, сѣли на задочку,
А мене положили въ самомъ передочку;
Сами коней погоняюць, на мене поглядаюць.
Везуць мене въ городъ: „еще молодъ" развражаюць.
Подкупили пріемщиковъ, знали лѣкаровъ;—
Хоць я мѣры не дошовъ, да въ солдаты пошовъ.
Я въ городзѣ (*огородѣ*) родзився, Государю згодзився,
А въ селѣ годовався, Государю сподобався.

27.

„Ты дуброва зеленая,
У три ряды сажоная,
Ой не шуми надо мною,
Надъ моею головою!
Ой зашумишъ ты въ тэй хвили (*бурѣ*),
Якъ я буду за три мили.
Ой ты, соколъ соколеньку!
Не кручинь мою головеньку!
Бо я самъ зажурился,
Што отъ роду отбился,
Отъ роду и отъ родзiйночки
За дваццать четыре милички".
Тамъ дороженька убитая
И слёзеньками ўся улитая.
Туды ишли новобранцы,
Новобранцы молодые,
Не женаты, холостые.
За ими матка рыдаючи,
Рученьки свое ломаючи.
„Досиць, мама, гореваци,
Досиць рученьки ломаци!
Бѣды гетымъ не загоцишъ (*не уймешь*),
Мене съ службы не ворoцишъ."

28.

Не шуми ты, зелёна дубровенька,
Не тужи ты, молодая вдовенька!
Што твой милый пошовъ до Варшавы
Шукаць смерци своей, альбо славы.
А въ Варшавѣ, хоць пьюць да гуляюць,
Да молодыхъ некрутовъ навучаюць.
Которые холостые, тые скачуць;
Которые женатые, тые плачуць,
Што зоставили жонокъ ўдовами,
А дзѣточекъ своихъ сиротами.

29.

Ой у лузѣ при долинѣ стояла калина,
Породзила удова хорошаго сына.
Его ёна породзила, да не дала доли;
Только дала бѣло лицо да чорныя брови.
Паны къ собѣ въ ревизію его записали,
Записали своимъ хамомъ и въ некруты здали.

30.

„Развивайся, красный дубе, заразъ морозъ будзе:
Прибирайся, сынъ ўдовинъ, заразъ походъ будзе!
— Я морозу не боюся, заразъ разовьюся:
Я й походу не боюся, заразъ приберуся."
Заиграли музыканты, забили барабаны,
Забили барабаны, сынъ ўдовинъ прибраный.
Енъ коника сѣдлае, головку склоняе,
За вороты выѣжджае, шапочку здыймае.
„Поливайце дороженьку, штобы не дымѣло,
Споцѣшайце матуленьку, штобы не жалѣла."
— Мы дорожку поливаемъ, ёна ўсё дымицца:
Мы матульку споцѣшаемъ, ёна ўсе журицца."

*Птичья свадьба.*

Щигликъ пе великій громаду збираёць,
Самъ не хочёць одзинъ жиць, женицися маець.
Узявъ собѣ пцицу—боро̀ву синицу,
Красную, ясную воробья сестрицу.
Пославъ орла, пославъ орла всё птаство збираци,
А орелъ попавъ гусю давай мордоваци.
Два снигиры, два снигиры шпака (*скворца*) да поймали,
А воро́ны за тэй часъ коровай сгибали.
Два каплуны, два каплуны солодъ молоцили,
Куропатва и цецерь до млына носили,
Буцянъ (*аистъ*) меле, буцянъ меле, а крукъ (*воронъ*) засыпае,
А воробчикъ, добрый хлопчикъ, муку обирае.
Перепёлка, перепёлка хату заметае,
Сова сѣдзиць на покуцѣ, скоса поглядае.
Сѣдзиць дзергачь (*коростель*) на порозѣ, сѣдзиць на порозѣ,
Пугачъ, пугачъ—упившися, лежиць на морозѣ,
А сороки, якъ приданки, скачуць коло лавки.
„Бѣдна моя головонька! лавки безъ подставки,“
А чаечка съ куличкомъ на веселлю йграе,
А куликъ да чайку хвацивъ за чубайку,
А чайка кигиче: „да згинь ты, куличе!“
А зязюля матуля, хорошая пцица,
Золотыя крылы мае, такъ гучно летае,
А щемель (*шмель*) меду даёць и госцей примаёць.